© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

Адна зямля

Мядзел
Астравец
Смаргонь
Вілейка
Маладзечна
Валожын
Мінск

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27 канал

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

6 чэрвеня 2014 года №23 (997)

**11-класнік выраватаваў першакласніка. Двойчы**

Уладзімір Грахоўскі раскавае пра свой учынак

старонка 5



**Віляйчанін змагаўся з паводкай у Сербіі**

Першая паездка за мяжу для Паўла Каўзовіча выдалася незвычайнай. Ён не грэўся на пляжы, а дапамагаў ліквідаваць наступствы паводкі ў Сербіі

старонка 4

**Расклад руху цягнікоў ад 1 чэрвеня**

с. 3

**Чытайце і каментуйце абноўлены сайт! Rh.by**

## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Затрымалі буйную партыю касметыкі

**АШМЯНЫ.** Ашмянская мытня на пасту "Каменны Лог" затрымала партыю кантрабанднай касметыкі агульным коштам два мільярды рублёў. Тавар канфіскавалі. Пачалі адміністрацыйны працэс.

### Пабачыць пейзажы

**СМАРГОНЬ.** У гісторыка-краязнаўчым музеі 7 чэрвеня ў 11 гадзін адкрыецца выстава мастака з Залесся **Уладзіміра Навіцкага**. На ёй прадставяць 44 работа, пераважна з краявідамі Смаргоншчыны. Працаваць выстава будзе месяц.

### Пройдзе рэгата

**МЯДЗЕЛ.** Парусная рэгата "Кубак Нарачы" пройдзе 7-8 чэрвеня. У ёй возьмуць удзел каля 30 яхтсменаў-аматараў з Беларусі. Старт намечаны ў к. п. Нарач (Купа), ля выратавальнай станцыі, паведаміў адзін з арганізатараў рэгаты **Мікалай Таляронак**.

### Абакралі касцёл

**ВАЛОЖЫН.** У вёсцы Забрэззе злачынца, падабраўшы ключ, пранік у касцёл Найсвяцейшай Тройцы, дзе з сейфа выкраў 7 мільёнаў рублёў, 550 долараў ЗША і 50 еўра. Злачынцу шукаюць.

### Пацвердзіў брэнд

**АСТРАВЕЦ.** Сёлета раённы цэнтр творчасці дзяцей і моладзі атрымаў 46 узнагарод, з іх 24 – на абласным, 10 – на рэспубліканскім і 12 – на міжнародным узроўнях. Чым пацвердзіў мінулагодняе званне "Брэнд года сістэмы адукацыі Гродзенскай вобласці".

### Запрацуе аквапарк

**МАЛАДЗЕЧНА.** Ад 7 чэрвеня запрацуе маладзечанскі аквапарк, які не прымаў наведнікаў у сувязі з прафілактычнымі работамі ад 12 мая. Па буднях ён працуе ад 15.00 да 21.00, а па выхадных – ад 12.00.

### Рэпер з Вілейкі стаў лаўрэатам конкурсу

**ВІЛЕЙКА.** Рэпер з Вілейкі **SP Kava (Юры Касцень)** стаў лаўрэатам конкурсу "Заспявай.BY". Гэты конкурс для маладых беларускіх музыкантаў узростам да 25 год арганізавалі tuzin.fm і фонд "Вяртанне". SP Kava прадставіў на конкурс кампазіцыю "Эндшпіль".

**Аддзел інфармацыі.**

Магазин "Царское Золото"
Молодечно, ул. Притыцкого, 12
Беспроцентная РАССРОЧКА до 7 месяцев на ИЗДЕЛИЯ ИЗ ЗОЛОТА И ЧАСЫ
Акция!
13 июня (пятница) 13 % СКИДКА
При покупке по наличному расчёту дополнительная СКИДКА 10%
В день рождения дополнительная СКИДКА 5%
Тел. (8-0176) 77-41-97
ЧП «БигПрайм». УНП 691511104

# "Штадлер" за 55 хвілін дамчыць да Мінска



Фота Ягора ЖЫХАРАВА

Маладзечанец Ягор Жыхараў набыў білет на першае месца першага рэйса швейцарскай электрычкі "Штадлер", якая з 1 чэрвеня пачала курсіраваць па маршруце Мінск-Маладзечна.

**МАЛАДЗЕЧНА. 1 чэрвеня ў 6.47 упершыню з Мінска на Маладзечна адправілася швейцарская электрычка "Штадлер".**

За 55 хвілін данесла яна сваіх пасажыраў. Праўда, нешматлікіх. Усяго ахвотных пракаціцца ў першым рэйсе новага цягніка аказалася агулам каля 15 чалавек.

Ды і ахвотных паехаць з Маладзечна на Мінск у 8 гадзін раніцы швейцарскай электрычкай бізнес-класа назбіралася каля 20.

Каштуе білет 30 тысяч 200 рублёў. Выглядае ён не як на звычайную электрычку, а як на міжгародні цягнік. І набыць яго можна загадзя.

Дарэчы, столькі ж каштуе білет на маршрутку.

Маладзечанец **Ягор Жыхараў** набыў першы білет на такі цягнік. У яго першае месца.

– У электрычцы вельмі камфортна, – дзеліцца ўражаннямі Ягор. – Адчуванні, быццам едзеш у "Мерседэсе". Працуе кандыцыянер. На экране адлюстроўваецца хуткасць, з якой едзе цягнік, тэмпература ўнутры салона. Зручныя столікі ёсць і нават разетка, адна на чатыры сядзенні.

Ёсць спецыяльная прыступка, каб без перашкодаў можна было заехаць з каляскай, з роварам. Каб камфортна сябе адчувалі людзі з абмежаванымі магчымасцямі.

Вагоны таксама абсталяваныя відэакамерамі. І тое, што адбываецца ў цягніку, бачыць машыніст.

У суботу "Штадлерам" кіраваў машыніст **Вадзім Чыркін**, а дапамагаў яму памочнік машыніста **Аляксандр Мацкель**.

**У швейцарскай электрычцы чатыры вагоны і 216 сядзенняў. Унутры паміж вагонамі няма дзвярэй. Прыбіральня ў цягніку адна. Кава-машын, як у цягніках, што ідуць з Мінска на Вільню, не прадугледжана.**

### Маладзечанцы змогуць паўплываць на расклад руху "Штадлеру"

Чаму электрычка "Штадлер" не прыбывае ў Мінск а восьмай гадзіне раніцы? Ці будзе яна спыняцца на прыпынку "Фестывальны"? Іншыя пытанні ўзніклі ў маладзечанцаў ужо пасля першага рэйса новага цягніка.

На пытанні адказвае першы намеснік начальніка пасажырскай службы Беларускай чыгункі **Андрэй Кашко.**

**– Ці будзе павялічвацца колькасць цягнікоў?**

– Першапачатковая колькасць такіх цягнікоў абмежаваная. І мы зацікаўленыя ў тым, каб яны хадзілі туды, дзе найбольшы пасажырскі паток. Калі будуць вызваляцца з іншых маршрутаў, то будзем, вядома, пускаць іх на Маладзечна.

**– Ці будуць "Штадлеры" спыняцца на прыпынку "Фестывальны"?**

– Калі мы пускалі гэтыя электрычкі, перад намі стаяла мэта скараціць час у дарозе да гадзіны і меней. Цяпер электрычка ідзе 55 хвілін. Калі дадаць да маршруту прыпынкі "Фестывальны" і "Мінск-Паўночны", то і час у дарозе, вядома, павялічыцца.

**– Калі б цягнік прыбываў у Мінск а восьмай, пасажыраў было б болей?**

– Праект са швейцарскімі электрычкамі пілотны. Вядома, што сярод маладзечанцаў мы праводзім маркетынгавыя даследаванні, каб вывучыць гэтае пытанне. У далейшым і час адпраўлення, і прыпынкі, і патрэба ў дадатковых рэйсах будуць фарміравацца ў залежнасці ад пажаданняў пасажыраў.

**5 чэрвеня электрычкай паехалі ўжо 50 чалавек, распавяла дзяжурная чыгуначнага вакзала Святлана Сасноўская. У першыя дні ехала ўсяго некалькі чалавек.**

**Настасся РОЎДА, Наталля ТУР.**

Расклад руху электрычкі бізнес-класа чытайце на 3-й старонцы.

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



ЭКАЛОГІЯ

# У садавода сохнуць дрэвы

**МАЛАДЗЕЧНА. У рэдакцыю звярнуўся чытач Андрэй Буслаўскі. З сабой ён прынёс галінкі пладовых дрэў, на якіх паскручваліся лісткі, пачарнела кара, самі галінкі высахлі знутры, быццам згарэлі.**

Спадар Андрэй распавёў пра тое, што на сваім участку вырошчвае каля 40 дрэў. Яго двор стаіць непадалёк ад прыпынку "Фестывальны". Побач расце калгасная бульба. Сёлета гаспадар заўважыў, што частка яго дрэў расце няправільна: лісткі не вырастаюць, кара счарнела.

Магчыма, прычына ў хімікатах, якімі апрацоўваюць бульбу, ці яшчэ ў нечым. Такая самая праблема і ў яго суседзяў: адны дрэвы здаровыя, іншыя пашкоджаныя. Спадар Буслаўскі не ведае, як ратаваць сад, спецыялісты, да якіх ён звяртаўся, таксама не далі рады.

Мы патэлефанавалі ў інспекцыю па насеннях водстве, каранціне і ахове раслін. На пытанні "Рэгіянальнай газеты" адказвае начальнік інспекцыі **Дзяніс Балдоўскі**:

**– Ці могуць хімікаты выклікаць такую рэакцыю на дрэвы?**

– Дакладна да саду спадара Андрэя Буслаўскага хімікаты дачынення не маюць. Бульба, якая расце побач, належыць гаспадарцы "Усход-агра", а там апрацоўку праводзілі толькі на мінулым тыдні. Чытач жа ў газету звяртаўся раней.

**– А тэарэтычна такое магчыма?**

– Гэта магло здарыцца з адной прычыны: апрацоўку раслін праводзілі пры вялікай колькасці парушэнняў. Калі былі не шчыльна зачыненыя спецыяльныя прыстасаванні, тады хімікаты магло здзімаць ветрам у бок саду.

**– Як часта да вас звяртаюцца гаспадары з выпадкамі падобнага кшталту, што іх расліны церпяць ад дзейнасці аграпрадпрыемстваў?**

– Са скаргамі на хімікаты, якімі апрацоўваюць палі, не звярталіся ні разу. Але па кансультацыю, чаму з’яўляюцца плямы на раслінах ці сохнуць дрэвы, звяртаюцца часта. Па магчымасці стараемся не адмаўляць у парадзе. І вашаму чытачу перадайце, хай звяртаецца да нас, калі зможам, дапаможам. Калі не, перанакіруем у Інстытут пладаводства ў Мінск.

**Наталля ТУР, Зоя ХРУЦКАЯ.**



Фота Настассі РОЎДЫ.

Сёлета Андрэй Буслаўскі заўважыў, што частка яго дрэў расце няправільна: лісткі не вырастаюць, а кара счарнела.

НАМ ПІШУЦЬ

## Мінуў 151 год ад бітвы пад Уладыкамі

**ВІЛЕЙКА. 28 мая споўніўся 151 год бітве паўстанцаў пад Уладыкамі. У гэты дзень ішоў моцны дождж. І мне падалося, што гэта не проста так. Здаецца, нават сама прырода аплаквала герояў.**

Наведаўшы месца пахавання паўстанцаў, вырашыў зазірнуць і ў Любчу. Там, нягледзячы на лівень, механізатары аграгаспадаркі "Стайкі" прыбіралі з-пад мемарыяла склад гною.

Працаўнікі гаспадаркі, і я таксама, былі вельмі здзіўленыя, чаму менавіта аграрнікі павінны перарабляць чужую працу, за якую гаспадарка бракаробам заплаціла грошы. Няўжо настолькі, кажуць, мы багатыя, няўжо салярка ў нас, як гэты дождж, з неба падае?

Ды наогул, чаму такое добрае ўгнаенне так марнуецца і не выкарыстоўваецца па прызначэнні? Сотні тон абы-куды вывезенага гною кожны год зарастае пустазеллем! Простыя рабочыя думаюць пра калгаснае. Вось бы галовы гэтых механізатараў ды кіраўніцтву гаспадаркі, а дыпломы кіраўніцтва – механізатарам, жылі б, як у Галандыі!

**Алесь РАТКЕВІЧ.**



НАРОДНЫЯ СВЯТЫ

## Адсвяткуюць Сёмуху

**ВІЛЕЙКА. У вёсцы Ерхі 8 чэрвеня пройдзе раённае свята Сёмуха "Траецкія прыгоды – песні, танцы, карагоды".**

Пакажуць абрады "Ваджэнне куста" і "Кумленне", выступяць лепшыя аматарскія калектывы Вілейшчыны.

Для дзяцей арганізуюць гульнявыя пляцоўкі.

На свяце падвядуць вынікі раённага агляду-конкурсу аматарскай мастацкай творчасці "Святы. Звычаі. Абрады... Запрашаем – будзем рады", паведаміў метадыст раённага метадычнага цэнтра народнай творчасці і культурна-асветніцкай работы **Андрэй Баўтрукевіч**.

Пачатак свята ў 12 гадзін.

**Аддзел інфармацыі.**

ТВОРЧАСЦЬ

## Літаратары прысвяцілі кнігу Адаму Гурыновічу

**ВІЛЕЙКА. Удзельнікі вілейскай літаратурнай суполкі "Натхненне" імя Адама Гурыновіча выпусцілі зборнік "Яго імя нас ахінае...".**

Кожны твор у ім прысвечаны Адаму Гурыновічу – паэту і фалькларысту, жыццёвы лёс якога звязаны з Мядзельшчынай і Вілейшчынай.

Кніга недарэмна выйшла сёлета. У гэтым годзе адзначалася 145 год з дня нараджэння паэта, а таксама 120 год з дня яго смерці.

– Матэрыял для зборніка збіралі каля трох год, шмат абмяркоўвалі на пасяджэннях, – расказала кіраўнік суполкі **Зінаіда Губарава-Крупская**. – Доўга падбіралі назву зборніка. І выбралі радкі з верша нашай паэтэсы **Тамары Пунінскай**: "Яго імя нас ахінае...".

Увайшлі ў зборнік творы дзевяці аўтараў. Тут не толькі вершы: **Роза Шэрая** напісала п’есу, Зінаіда Губарава-Крупская – казку. **Уладзімір Кажамяка** прысвяціў паэту паэму. Таксама змешчаны вершы **Міколы Кутаса, Надзеі Далёкай-Гісіч, Міхаіла Пастарнака, Уладзіміра Цануніна, Аксаны Ярашонак-Камінскай**.

Кніга выдадзена ў выдавецтве "Каўчэг" тыражом 40 экзэмпляраў. Змяшчае яна 87 старонак. Аздобленая фатаграфіямі мясцін, звязаных з Адамам Гурыновічам, і вілейскіх краязнаўцаў, якія займаліся ўвекавечаннем памяці паэта, – **Анатоля Рогача, Віталя Кастэнкі, Анатоля Капцюга**.

Зборнік прэзентавалі ў Вілейцы, падарылі кнігу раённай цэнтральнай бібліятэцы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ЧЫГУНКА

## Расклад руху цягнікоў ад 1 чэрвеня

| № цягніка | Маршрут | Адпраўленне з пачатковай станцыі | По станцыі Маладзечна: прыбыццё | стаянка | адпраўленне | Прыбыццё на канцавую станц. | Дні курсіравання |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 29 | **Масква-Калінінград** | 14:20 | **0:30** | 3 | **0:33** | 11:29 | штодзённа |
| 633 | **Магілёў-Гродна** | 19:08 | **1:10** | 2 | **1:12** | 5:40 | няцотныя |
| 623 | **Віцебск-Гродна** | 18:50 | **1:10** | 2 | **1:12** | 5:40 | цотныя |
| 148 | **Калінінград-Масква** | 16:56 | **1:57** | 3 | **2:00** | 15:53 | пн, ср, пт, сб |
| 77 | **Масква-Гродна** | 17:08 | **3:40** | 8 | **3:48** | 8:29 | штодзённа |
| 360 | **Калінінград-Адлер** | 18:59 | **4:01** | 2 | **4:03** | 8:14 | няцотныя |
| 626 | **Віцебск-Мінск** | 21:42 | **4:17** | 29 | **4:46** | 6:09 | штодзённа |
| 5 | **Масква-Вільня** | 18:55 | **4:40** | 3 | **4:43** | 8:00 | штодзённа |
| 88 | **Рыга-Мінск** | 18:35 | **4:59** | 28 | **5:27** | 6:35 | штодзённа |
| 79 | **С.-Пецярбург-Калінінград** | 16:40 | **5:41** | 14 | **5:55** | 16:50 | пн, аўт, чц, сб |
| 425 | **Чэлябінск-Калінінград** | 20:20 | **5:50** | 5 | **5:55** | 16:50 | ад 8/06 да 31/08 па ндз. |
| 147 | **Масква-Калінінград** | 21:44 | **8:26** | 2 | **8:28** | 19:40 | аўт, чц, сб, ндз |
| 804 | **Вільня-Мінск** | 7:00 | **8:28** | 2 | **8:30** | 9:30 | штодзённа |
| 805 | **Мінск-Вільня** | 7:40 | **8:38** | 2 | **8:40** | 10:10 | штодзённа |
| 801 | **Мінск-Вільня** | 8:45 | **9:49** | 2 | **9:51** | 12:38 | сб, ндз |
| 630 | **Гродна-Мінск** | 6:26 | **10:22** | 2 | **10:24** | 11:28 | штодзённа |
| 803 | **Мінск-Вільня** | 10:10 | **11:07** | 2 | **11:09** | 12:57 | штодзённа |
| 808 | **Вільня-Мінск** | 14:58 | **16:46** | 2 | **16:48** | 17:45 | штодзённа |
| 629 | **Мінск-Гродна** | 16:56 | **17:59** | 2 | **18:01** | 21:58 | штодзённа |
| 426 | **Калінінград-Чэлябінск** | 8:48 | **18:00** | 4 | **18:04** | 6:07 | ад 2/06 да 25/08 па пн. |
| 693 | **Мінск-Полацк** | 17:12 | **18:20** | 25 | **18:45** | 22:51 | па пятніцах |
| 80 | **Калінінград-С.-Пецярбург** | 10:18 | **19:07** | 12 | **19:19** | 11:07 | аўт, чц, сб, ндз |
| 806 | **Вільня-Мінск** | 18:14 | **19:42** | 2 | **19:44** | 20:44 | штодзённа |
| 807 | **Мінск-Вільня** | 18:50 | **19:50** | 2 | **19:52** | 21:20 | штодзённа |
| 6 | **Вільня-Масква** | 16:55 | **20:28** | 4 | **20:32** | 9:01 | штодзённа |
| 634 | **Гродна-Магілёў** | 15:53 | **21:20** | 6 | **21:06** | 5:26 | няцотныя |
| 624 | **Гродна-Віцебск** | 15:53 | **21:20** | 6 | **21:06** | 4:50 | цотныя |
| 625 | **Мінск-Віцебск** | 20:10 | **21:32** | 38 | **22:10** | 5:50 | штодзённа |
| 359 | **Адлер-Калінінград** | 20:53 | **21:43** | 2 | **21:45** | 9:02 | 7, 11, 15, 19, 23, 27 |
| 78 | **Гродна-Масква** | 16:53 | **21:44** | 4 | **21:48** | 10:26 | штодзённа |
| 30 | **Калінінград-Масква** | 13:14 | **22:12** | 3 | **22:15** | 9:27 | штодзённа |
| 87 | **Мінск-Рыга** | 21:30 | **22:40** | 28 | **23:08** | 9:30 | штодзённа |
| 802 | **Вільня-Мінск** | 20:07 | **22:51** | 2 | **22:53** | 23:54 | сб, ндз |

Collegium Civitas
www.civitas.edu.pl
Якасць на вышыні!
• Еўрапейскі дыплом
• Патранат Польскай Акадэміі Навук
• Гарантыя нязменнай аплаты
tel.: +48 22 656 71 89
admissions@collegium.edu.pl
Калегіюм Сівітас, Рэспубліка Польшча, г. Варшава

Первомайский (г. Минска) отдел Департамента охраны МВД Республики Беларусь приглашает на службу на должности
» МИЛИЦИОНЕРА
- удобное транспортное расположение (ст. М. "Академия наук"), - полный соц.пакет,
- альтернатива службе в ВС,
» ОХРАННИКА
Тел. (017) 280 56 21,
Моб. тел. (029) 239 53 19, (044) 763 91 59
» ЭЛЕКТРОМОНТЕРА ОПС
з/п от 5 000 000 руб., бесплатное обучение (переподготовка) по профессии электромонтер ОПС для лиц не имеющих специальности с выдачей удостоверения Тел. (017) 280 86 23,
(029) 562 11 29, (029) 690 51 32

D-POL Предлагаем для частных лиц и организаций
СЕЛЬХОЗТЕХНИКУ
новую и б/у производства Европа:
КАРТОФЕЛЕСАЖАЛКИ, ОПРЫСКИВАТЕЛИ, КОМБАЙНЫ КАРТОФЕЛЕУБОРОЧНЫЕ, картофелекопалки, бороны дисковые, разбрасыватели минеральных удобрений, окучники, рассадопосадочные машины, пресс-подборщики, плуги отвальные, агрегаты почвообрабатывающие, культиваторы, запасные части и др.
ООО "АгроГруппДПол" УНП 291103215
8(029)2222045(МТС)
8(029)3933045(Vel.)
8(033)3033300(МТС)
www.d-pol.by



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



ЧЫГУНКА

# Расклад руху цягнікоў ад 1 чэрвеня

## Цягнікі рэгіянальных ліній

| Маладзечна-Гудагай | | | | Гудагай-Маладзечна | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| № цягніка | Час адпраўлення | Час прыбыцця | Прыпынкі, дні курсіравання цягніка | № цягніка | Час адпраўлення | Час прыбыцця | Прыпынкі, дні курсіравання цягніка |
| 7031 | **06:36** | 07:50 | Штодз. з прыпынкамі па станцыях і п.п. Маладзёжны | 6884 | **05:40** | 07:14 | Штодз. |
| 7033 | **07:38** | 09:08 | Штодз. Мінск-Гудагай Мінск-Маладзечна з прыпынкамі Мінск-Паўночны, Ждановічы, далей Маладзечна-Гудагай б/п Гаўці, Скрэсціны, Каменка | 7032 | **08:06** | 09:19 | Штодз. Гудагай-Мінск Гудагай-Маладзечна з прыпынкамі па станцыях і п.п. Маладзёжны, далей Маладзечна-Мінск з прыпынкамі Ждановічы, Мінск-Паўночны |
| 6885 | **08:50** | 10:27 | Штодз. | 7034 | **09:36** | 10:50 | Штодз. з прыпынкамі па станцыях і п.п. Маладзёжны |
| 6887 | **12:06** | 13:00 | У рабочыя да Смаргоні | 6888 | **10:42** | 12:17 | Штодз. |
| 6971 | **13:40** | 15:16 | У выхадныя | 6890 | **13:49** | 14:41 | У рабочыя са Смаргоні |
| 6889 | **15:50** | 17:26 | Штодз. да Гудагая | 6972 | **15:36** | 17:26 | У выхадныя |
| 6891 | **17:53** | 19:32 | Штодз. | 6892 | **17:43** | 19:28 | Штодз. |
| 7035 | **19:20** | 20:50 | Штодз. з Мінска Мінск-Маладзечна з прыпынкамі Мінск-Паўночны, Ждановічы, далей Маладзечна-Гудагай з прыпынкамі па станцыях і п.п. Маладзёжны | 7036 | **19:56** | 21:13 | Штодз. Гудагай-Мінск Гудагай-Маладзечна з прыпынкамі па станцыях і п.п. Маладзёжны, Маладзечна-Мінск з прыпынкамі Ждановічы, Мінск-Паўночны |
| 6893 | **20:43** | 22:19 | Штодз. | 6894 | **21:28** | 23:11 | Штодз. |
| **Маладзечна-Ліда** | | | | **Ліда-Маладзечна** | | | |
| | | | | 6264 | **04:08** | 07:11 | Штодз. |
| 6263 | **08:38** | 11:37 | Штодз. | | | | |
| 6977 | **12:51** | 15:51 | У выхадныя | 6266 | **09:07** | 12:12 | Штодз. |
| | | | | 6978 | **12:19** | 15:19 | У выхадныя |
| 6265 | **18:21** | 21:20 | Штодз. | 6268 | **16:14** | 19:14 | Штодз. |
| 6267 | **20:32** | 23:30 | Штодз. | | | | |
| **Маладзечна-Крулеўшчына-Полацк** | | | | **Крулеўшчына-Маладзечна** | | | |
| 6682 | **07:38** | 09:26 | У выхадныя да Параф'янава | 6623 | **04:50** | 07:03 | Штодз. адпраўленнем з Глыбокага ў 04:16 |
| 6628 | **08:54** | 11:05 | Штодз. | 6681 | **09:58** | 11:49 | У выхадныя з Параф'янава |
| | | 13:05 | Прыбыццё ў Полацк | 6683 | **15:22** | 17:38 | У выхадныя |
| 6684 | **12:50** | 15:03 | У выхадныя да Крулеўшчыны | 6683 | **17:03** | 17:38 | У рабочыя з Вілейкі |
| 6634 | **16:14** | 16:49 | У рабочыя да Вілейкі | 6627 | **17:34** | 19:45 | Штодз. |
| 6632 | **20:13** | 22:21 | Штодз. | | | 15:37 | Адпраўленне з Полацка |
| | **22:30** | 23:00 | Адпраўленне з Крулеўшчыны (пятніца, нядзеля) Прыбыццё ў Глыбокае | | | | |

| Маладзечна-Мінск | | | | Мінск-Маладзечна | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| № цягніка | Час адпраўлення | Час прыбыцця | Прыпынкі, дні курсіравання цягніка | № цягніка | Час адпраўлення | Час прыбыцця | Прыпынкі, дні курсіравання цягніка |
| 6102 | **04:14** | 05:59 | б/п Селівонаўка | 6101 | **00:30** | 02:10 | б/п Татаршчызна, Селівонаўка |
| 6104 | **05:01** | 06:57 | | 6103 | **04:37** | 06:09 | б/п Мінскае Мора, Крыжоўка, Зялёнае, Хмелеўка, Анусіна, Вязынка, Пралескі |
| 6108 | **05:52** | 07:39 | | 6105 | **05:18** | 07:01 | |
| 6110 | **06:26** | 08:09 | б/п Зялёнае, Крыжоўка, Мінскае Мора | 7033 | **06:10** | 07:28 | Мінск-Маладзечна з прыпынкамі Ждановічы, Мінск-Паўночны, далей д.п. да Гудагая, б/п Гаўці, Скрэсціны, Каменка |
| 6112 | **07:26** | 09:24 | | 6107 | **06:26** | 08:19 | |
| 6114 | **08:40** | 10:28 | | 6109 | **07:50** | 09:34 | |
| 7032 | **09:23** | 10:45 | Прыпынкі: Ждановічы, Мінск-Паўночны | 6111 | **08:56** | 10:43 | |
| 6116 | **09:55** | 11:50 | | 6113 | **09:48** | 11:42 | |
| 6118 | **11:15** | 13:00 | | 6115 | **10:46** | 12:33 | |
| 6768 | **12:39** | 14:20 | Па пятніцах і выхадных б/п:Раманы, Хмелеўка, Зялёнае | 6119 | **11:40** | 13:24 | |
| | | | | 6121 | **12:48** | 14:35 | |
| 6120 | **13:12** | 14:59 | | | | | |
| 6122 | **14:56** | 16:39 | Да станцыі Мінск-Паўночны | 6735 | **14:50** | 16:35 | Па выхадных з Пухавіч б/п Селівонаўка |
| 6124 | **15:46** | 17:33 | | 6125 | **15:35** | 17:21 | |
| 6126 | **16:59** | 18:47 | | 6127 | **16:19** | 18:11 | |
| 6128 | **17:50** | 19:38 | | 7035 | **17:55** | 19:18 | Ад Мінска да Маладзечна з прыпынкамі Ждановічы, Мінск-Паўночны, далей Маладзечна-Гудагай з прыпынкамі па станцыях і п.п. Маладзёжны |
| 6130 | **18:31** | 20:09 | Дні курсіравання: пн, аўт, ср, чц. Да станцыі Алёхнавічы б/п, ад Алёхнавіч да Мінска | | | | |
| 6132 | **18:45** | 20:31 | | 6129 | **17:35** | 19:27 | |
| 6134 | **19:53** | 21:55 | б/п Селівонаўка | 6131 | **18:16** | 20:02 | б/п Крыжоўка, Мінскае Мора, Зялёнае |
| 6136 | **20:39** | 22:26 | | 6133 | **19:45** | 21:25 | б/п Крыжоўка, Мінскае Мора, Зялёнае |
| | | | | 6135 | **20:45** | 22:32 | |
| 7036 | **21:17** | 22:40 | Гудагай-Маладзечна з прыпынкамі па станцыях і п.п. Маладзёжны, далей Маладзечна-Мінск з прыпынкамі Ждановічы, Мінск-Паўночны | | | | |
| 6138 | **22:23** | 00:08 | б/п Раманы, Пралескі, Хмелеўка, Зялёнае, Крыжоўка | 6137 | **22:15** | 23:54 | б/п Мясата, Татаршчызна, Крыніца, Селівонаўка |

## Цягнікі рэгіянальных ліній бізнес-класа

| № цягніка | Маршрут следавання | Адпраўленне | Прыбыццё | Дні курсіравання |
|---|---|---|---|---|
| 772 | Маладзечна-Мінск | **8:00** | 8:55 | штодзённа |
| 774 | Маладзечна-Мінск | **20:25** | 21:20 | штодзённа |
| 771 | Мінск-Маладзечна | **6:47** | 7:42 | штодзённа |
| 773 | Мінск-Маладзечна | **19:20** | 20:15 | штодзённа |

Афармленне білетаў у касе вакзала на цягнікі рэгіянальных ліній бізнес-класа заканчваецца за пяць хвілін да адпраўлення цягніка.

Білеты на цягнікі рэгіянальных ліній бізнес-класа можна афармляць папярэдне за 45 сутак, у тым ліку і праз інтэрнэт з дапамогай электроннай рэгістрацыі.

Тэл. для даведак: **(8-0176) 74-28-26.**

ПВГУП «**Сціжма**» дастаўць:
- пальчаткі розныя, венікі, губкі, зубачысткі, мяшкі, плёнку, шпагат, фартухі, пломбу свінцовую;
- сродкі дэзінфекцыі;
- соду, мыла, розную хімію і інш.;
- папяровыя вырабы: сурвэткі, ручнікі рулонныя і Z-складзеныя...;
- посуд шкляны, фарфоравы і г. д.;

**+37529 6674171; +37529 7122054; stizma@ya.by;**

УНП 391385475

| Курсы валют НБ РБ | 29.05 руб. | 5.06 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 10 080,00 | **10 110,00** |
| Еўра | 13 730,00 | **13 760,00** |
| Злоты | 3 296,16 | **3 312,42** |
| Літ | 3 976,72 | **3 985,18** |
| Расійскі рубель | 293,00 | **287,50** |
| Грыўня | 849,38 | **846,03** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Еўра | 13710/13790 | **13750/13830** |
| Долар ЗША | 10070/10130 | **10100/10150** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 28.05 | 4.06 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | **116900** | **116900** |
| **Сасіскі**, 1 кг | **50500** | **55200** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | **31300** | **31500** |
| **Ялавічына**, (выразка), 1 кг | **95000** | **95000** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | **28900** | **28900** |
| **Селядзец**, 1 кг | **32500** | **31500** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | **102000** | **105000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | **13500** | **10500** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | **8500** | **8500** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | **12000** | **10000** |
| **Алей "Масловія"** | **13000** | **13000** |
| **Маянэз**, 200 г | **5500** | **5300** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | **8000** | **8000** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | **28000** | **28000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | **9000** | **9000** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | **11000** | **12000** |
| **Капуста**, 1 кг | **14900** | **11000** |
| **Морква**, 1 кг | **8000** | **9000** |
| **Буракі**, 1 кг | **8000** | **16000** |
| **Лімоны**, 1 кг | **29900** | **28500** |
| **Апельсіны**, 1 кг | **23900** | **16500** |
| **Мандарыны**, 1 кг | **26500** | **23500** |
| **Памідоры**, 1 кг | **19500** | **17000** |
| **Агуркі**, 1 кг | **8900** | **14000** |
| **Перац**, 1 кг | **39900** | **36500** |
| **Вінаград**, 1 кг | **25900** | **24900** |
| **Бананы**, 1 кг | **15800** | **15800** |
| **Яблыкі**, 1 кг | **10900** | **11500** |
| **Грушы**, 1 кг (Канферэнцыя) | **23800** | **19500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| **Масла**, 1 кг | 80000 | **80000** |
| **Тварог**, 1 кг | 50000 | **50000** |
| **Бульба**, маладая 1 кг | 17000 | **16000** |
| **Сала**, 1 кг | 85000 | **85000** |
| **Мёд**, 0,5 л | 50000 | **50000** |

Молодеченский ф-л УП «Минское отделение Белорусской Торгово-Промышленной палаты» оказывает следующие виды услуг:

**ПЕРЕВОДЫ С/НА: английского, испанского, итальянского, немецкого, польского и французского языков**, в том числе и для последующего нотариального заверения. Тел. **(8-0176) 70-31-16**

**ОЦЕНКА И ПЕРЕОЦЕНКА имущества** в т.ч. государственного (машин, оборудования, передаточных устройств, зданий, сооружений, транспортных средств) Тел.: **(8-0176) 70-31-15, 75-35-74**

**ЭКСПЕРТИЗА достоверности оценки** Тел.: **(8-0176) 70-31-15, 75-35-74**

**КУРСЫ английского языка для начинающих** Занятия 3 раза в неделю в вечернее время по 2 академ. часа. Тел. **(8-0176) 70-31-16**

***г. Молодечно, ул. Буховщина, д. 60, корп.1, пом.54***
e-mail: **tppm-mo@tppm.by**

УНП 100144204



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



● СЛУЖБА 101

# Віляйчанін ратаваў Сербію ад паводкі

**ВІЛЕЙКА. Першая паездка за мяжу для Паўла Каўзовіча выдалася незвычайнай. Ён не грэўся на пляжы і не здзіўляўся славутасцям еўрапейскіх гарадоў, а дапамагаў ліквідаваць наступствы паводкі ў Сербіі.**



Фота з сайта mchs.gov.by

Беларускія выратавальнікі аказваюць дапамогу жыхарам, якія пацярпелі ад паводкі ў раёнах Сербіі.

Павел – старшы пажарны пажарнай аварыйна-выратавальнай часці №1 Вілейскага райаддзела па надзвычайных сітуацыях. Адправіўся 23-гадовы выратавальнік у Сербію ў складзе зводнага атрада Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Беларусі. З Мінскай вобласці ў яго ўвайшлі толькі два выратавальнікі.

**– Чаму менавіта вы трапілі ў зводны атрад?**

– Патэлефанавалі з абласнога ўпраўлення, што трэба чалавек. Па ўсіх крытэрыях падыходзіў. А патрабаваліся навыкі кіравання маламерным суднам і стаж працы выратавальнікам не менш за тры гады. Усё было вельмі хутка: патэлефанавалі 17 мая – у гэты ж дзень і паляцелі. У нас праца такая: трэба ехаць – значыць, трэба.

**– Да гэтага чулі, што там адбываецца?**

– Нам прыходзяць зводкі пра тое, што адбываецца за мяжой. Якраз раніцай і пачытаў.

**– Ці шмат вас накіравалася ў Сербію?**

– З Беларусі было 25 чалавек. Паляцелі два верталёты МІ-8: экіпаж, адзін карэспандэнт і выратавальнікі з адмысловым абсталяваннем.

У першы дзень мы разгружалі самалёты, якія прыходзілі з гуманітарнай дапамогай. Перагружалі грузы ў верталёты, якія ляцелі ў затопленыя вёскі.

На другі дзень нас накіравалі ў горад Шабац. Там працавалі з расійскімі калегамі: з Цэнтральнага выратавальнага атрада і атрада "Лідар". Таксама былі яшчэ выратавальнікі з Францыі і Аўстрыі.

**Наша задача была такая – у першую чаргу, быць напагатове і кантраляваць канал у горадзе. Там вада магла ўзняцца да крытычнай адзнакі, тады б затапіла хімічны завод і, адпаведна, хімікаты патрапілі б у ваду.**

Таксама дзяжурылі па 12 гадзін на дамбе ў 25-ці кіламетрах ад Шабаца, у вёсцы Дрэнавец. Ну і рабілі ўсё, што прасілі.

**– Якія самыя яркія ўражанні засталіся?**

– Спадабалася гасціннасць сербаў і іх самаадданасць. У Дрэнаўцы існавала верагоднасць прарыву дамбы. Разам з выратавальнікамі і ваеннымі прыязджалі на сваіх машынах на дапамогу мясцовыя жыхары, умацоўвалі дамбу мяшкамі з пяском. Ды так шмат людзей было – дружна, зладжана працавалі.

**– Як лічыце, ваша дапамога важная была?**

– Лічу, што так. Сербы падыходзілі, дзякавалі.

**– А самому бяспечна было?**

– Па-рознаму. Але такая, у прынцыпе, наша праца.

**– Адразу не ведалі, на колькі давядзецца затрымацца ў Сербіі?**

– Не. Сітуацыя палепшылася 24 мая, і прынялі рашэнне накіравацца дадому. Назаўтра нас ужо сустракалі ў Беларусі.

**– Нейкі новы досвед набылі?**

– Так. Сярод расійскіх калег былі вельмі дасведчаныя людзі – яны ў многіх краінах у выратавальных аперацыях удзельнічалі.

**– Гэты досвед на радзіме спатрэбіцца?**

– У Вілейцы пераважна выязджаем на пажары, дарожна-транспартныя здарэнні. Але ў нас Вілейскае вадасховішча побач, і калі што – у любы момант пастараюся гэты досвед выкарыстаць. Але лепш бы ён тут не спатрэбіўся.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка "РГ".** Паводка ў Сербіі, выкліканая лівневымі дажджамі, забрала жыцці 51 чалавека. Вялікі ўрон нанесены сельскай гаспадарцы, энергетычнаму і транспартнаму сектару краіны. Страты ад паводкі склалі каля аднаго мільярда еўра. За час гуманітарнай выратавальнай аперацыі барты беларускага МНС ажыццявілі 23 вылеты, у пацярпелыя ад паводкі раёны перавезены 90 сербскіх выратавальнікаў і медыкаў, дастаўлены амаль 28 тон гуманітарных грузаў.

● КРЫМІНАЛ

## Хлопец трапіў у ДТЗ, яго пасажыр загінуў

**ВАЛОЖЫН. У здарэнні, якое адбылося 1 чэрвеня ля вёскі Алянава, загінуў 18-гадовы хлопец.**

Пра гэта "РГ" распавёў **Віталь Мінкевіч**, намеснік начальніка Валожынскага РАУС па ідэалагічнай рабоце і кадравым забеспячэнні:

– Першага чэрвеня 19-гадовы маладзечанец адпачываў на лецішчы ў бацькоў у вёсцы Падбярэзь. Каля трох гадзін ночы ён з сябрам выравшыў пакатацца на матацыкле "Іж Планета-5". На дарозе Падбярэзь-Алянава перавысіў хуткасць руху, не ўлічыў, што дарога пасля дажджу слізкая, і, не справіўшыся з кіраваннем, з'ехаў у левы кювет. Там ён урэзаўся ў бетонную агароджу. 18-гадовы пасажыр, жыхар вёскі Анцэлеўшчына, загінуў. Кіроўцу даставілі ў рэанімацыю. Цяпер ён у бальніцы.

Магчыма, кіроўца быў п'яны, але дакладна гэта вызначыць экспертыза. Правоў на кіраванне матацыклам ён не меў.

Супраць хлопца ўзбуджаная крымінальная справа. Яму пагражае да пяці гадоў зняволення.

**Наталля ТУР.**

## Са спецвучылішча збеглі восем падлеткаў

**МЯДЗЕЛ. 1 чэрвеня каля 06.00 восем непаўналетніх збеглі з Крывіцкага спецыяльнага прафесійна-тэхнічнага вучылішча закрытага тыпу.**

Падлеткі з розных абласцей – пошук вядуць па ўсёй краіне, паведамілі ў Мядзельскім РАУС. Перамяшчацца яны могуць як усе разам, так і па адным.

Прыкметы: з выгляду 17-18 гадоў, сярэдняга целаскладу і росту, валасы прамыя, сярэдняй даўжыні ці кароткія. Большасць маюць татуіроўкі, пераважна на плячах, руках і запясцях. У большасці – шрамы на галаве, кісцях, перадплеччах і плячах. (Фота глядзіце на сайце **rh.by**).

Калі вы бачылі падобных па прыкметах падлеткаў альбо тых, якія выклікаюць падазрэнне, звярніцеся ў міліцыю па тэлефонах: **102** ці **8-01797-55-4-71, 8-017-229-05-90**.

**Аддзел інфармацыі.**

Унитарное предприятие "Скайпрофиль" УНП 691537001
СкайПрофиль
•МЕТАЛЛОЧЕРЕПИЦА от производителя
•ПРОФНАСТИЛ
•МОНТАЖ «под ключ»
• РАССРОЧКА 6 И 12 МЕС.
• НИЗКИЕ ЦЕНЫ, ДОСТАВКА
• ЗАМЕРЫ, РАСЧЕТ ПО ПРОЕКТАМ
ЗАБОРЫ
20 ЛЕТ
РЕЗКА МЕТАЛЛА
ТРУБЫ и МЕТАЛЛОПРОКАТ
пн.-пт.: 8⁰⁰–19⁰⁰, сб.: 10⁰⁰–15⁰⁰ skyprofil.by
г. Молодечно, ул. Элеваторная, 3 (0176) 77-04-94 (044) 500-22-01 (033) 300-18-74
г. Сморгонь, пр-т Индустриальный, 23 (01592) 3-73-29, 3-73-50 (044) 500-21-99 (033) 300-18-73

● У КАМІТЭЦЕ ДЗЯРЖКАНТРОЛЮ

## Знайшлі парушэнні ва "Усходзе-Агра"

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанскі міжраённы камітэт дзяржкантролю праверыў ААТ "Усход-Агра".**

Праверка паказала, што летась тэмп росту валавой прадукцыі сельскай гаспадаркі склаў 96,2% ад запланаванага. Прагназаваны ж паказчык быў 106,8%. Знізіўся паказчык вытворчасці прадукцыі жывёлагадоўлі і раслінаводства.

Таварыства павялічыла колькасць кароў на 39 галоў. Аднак валавы надой малака павялічыўся нязначна, на 18 тон, ці 0,3%. Яго ж продаж знізіўся на 142 тоны, ці 2,8%. Удой на карову склаў 4 966 кілаграмаў і скараціўся на 213 кілаграмаў, валавыя прывагі зменшыліся на 63 тоны, ці 7,8%.

Асноўная прычына зніжэння паказчыкаў – адсутнасць жывёлагадоўчых памяшканняў, якія б адпавядалі сучасным патрабаванням вытворчасці прадукцыі жывёлагадоўлі.

Каб выправіць сітуацыю, у маі 2012 года таварыства пачало будаваць малочнатаварную ферму на 600 галоў дойнага статка.

Аднак будаўнікі не выканалі свае абавязацельствы па дамоўленасці. Будаўніцтва фермы зацягнулася на нявызначаны тэрмін. З-за гэтага гаспадарка нясе значныя страты за карыстанне крэдытам.

У таварыстве скончылі рэканструяваць бульбасховішча. Але дапусцілі шмат парушэнняў як будаўнічага, так і фінансавага заканадаўства.

Завысілі кошт будаўніча-мантажных работ на 26 мільёнаў рублёў. Кошт вентыляцыйнага пасрэдніцтва завысілі амаль на 130 мільёнаў рублёў.

Падчас будаўніцтва дэмантавалі металаканструкцыі, якія па дадзеных бухгалтарскага ўліку не апрыходаваныя. А гэта звыш 50 тон металалому на 44 мільёны рублёў.

У парушэнне прыродаахоўнага заканадаўства на землях лясного фонду таварыства распрацавала кар'ер, дзе толькі ў студзені 2013 года дабыло 1,6 тысячы тон пяску.

У дадатак, прадпрыемства прысвоіла сабе ворныя землі.

**Па інфармацыі Маладзечанскага дзяржкантролю.**

● ВЫШУК

## Дапамажыце знайсці ноўтбук

Маладзечанскі РАУС шукае асобу, якая выкупіла з ламбарда "Вега Сталіца", які знаходзіцца па вуліцы Францішка Скарыны, ноўтбук маркі "Lenovo-G 575" 29 лістапада 2013 года.

Калі вы валодаеце якой-небудзь інфармацыяй аб месцазнаходжанні гэтага ноўтбука, паведаміце па тэлефонах: **8 (029) 709 21 75, 8 (0 176) 74 68 55** альбо **102**.

**Па інфармацыі Маладзечанскага РАУС.**

Компания ООО «Вода Славная» ПРИГЛАШАЕТ К СОТРУДНИЧЕСТВУ
ДИЛЕРОВ для реализации питьевой воды в 19-литровых бутылях
(организация продаж воды юридическим и физическим лицам)
Телефон: 8-029-141-79-54 Дмитрий Викторович

ЧТУП "Масис Групп" УНП 690693934
BESSER-БЛОК
■ Besser - блоки для стен и заборов
■ Шлифованная и полированная продукция
■ Плитка тротуарная разных видов
■ Кирпич декоративный облицовочный разных цветов
■ Шифер
■ Цемент
■ Профнастил
Гибкая система скидок
Кирпич лицевой декоративный 190х90х56 мм • серый • красный • коричневый • желтый • черный • зеленый от 3 500 руб./шт.
Besser-блок декоративный 390х190х190 мм есть разные цвета от 32 000 руб./шт.
Доставка по городу и району БЕСПЛАТНО
Адрес: г. Молодечно, ул. Машерова, 14
Тел.: (029) 265-87-58, (0176) 74-61-13
Информация на сайте: www.bessershop.by



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



● ВЕДАЙ НАШЫХ!

# 11-класнік выратаваў першакласніка. Двойчы

**МАЛАДЗЕЧНА. Вучань 11 класа СШ №14 Уладзімір Грахоўскі выратаваў першакласніка, які ледзьве не патануў у рацэ Бярэзіна, што ў вёсцы Падбярэзь Валожынскага раёна.**

– Ды і нічога я такога не зрабіў. Проста выканаў свой доўг уже дарослага, адказнага за ўчынкі чалавека.

Здарэнне адбылося на першамайскія святы. Уладзімір разам з бацькамі паехаў на лецішча, што ў вёсцы Падбярэзь на Валожыншчыне.

– Мама мяне адправіла ў шчаўе, гэта было 1 мая. Я сустрэўся са сваімі былымі аднакласнікамі (я раней вучыўся тут, у Падбярэзі), і мы пайшлі да ракі.

На рацэ, як успамінае Уладзімір, купаліся дзеці.

– Іх там было чалавек 20, рознага ўзросту, ад першага да сёмага класа. Там, на рацэ, ёсць дамба. А пад ёй бетонныя пліты, там заўсёды дзеці лазяць. І вады там па костачку. Але небяспека ў тым, што пліты ж не ўсюды. Я мяркую, што Лёша (так завуць хлопчыка, якога выратаваў Уладзімір) проста не ведаў, што пліты скончыліся. Ступіў на наступную і боўтнуў у ваду.

Што было далей, Уладзімір успамінае цьмяна.

– Памятаю, што мае аднагодкі, з якімі я прыйшоў на раку, стаялі і смяяліся. А да мяне дайшло, што яшчэ хвіліна і не будзе каго ратаваць. Памятаю, як на паверхні засталася толькі Лёшкіна ручка. Я нырнуў у ваду, выцягнуў малога, паставіў яго на пліты. А сам разумею, што я да дна не дастаю і на пліты стаць няма як. Пакуль я прымяраўся, як вылезці з вады, той Лёшка паслізнуўся і зноў апынуўся ў вадзе. Давялося яшчэ раз ныраць і на гэты раз цягнуць яго да берага, метраў 5-7. Хоць і перапалохаўся малы, але дапамога дактароў, на шчасце, яму не спатрэбілася, пабег дадому так, ажно пяткі заблішчэлі.

**– Ты ведаў раней, як трэба ратаваць з вады чалавека, вучылі гэтаму ў школе?**

– Я вучуся ў ваеннапатрыятычным класе ў 14-й школе, таму, канешне, нейкім навыкам вучылі. Але мне запомнілася тое, што чалавека, які тоне, нельга выцягваць з вады за шыю. Нейкая дзіўная парада. І я чалавека, які не тоне, за шыю хапаць не буду.

**– Ты ў той момант разумеў, што рызыкуеш сваім жыццём?**

– Ды не думаў я пра гэта! Як гэта ні пафасна гучыць, але я не мог бы зрабіць інакш. Усё ж такі павінен мужчына амаль у 18 гадоў адчуваць адказнасць і прадугледжваць наступствы. Мяне здзівіла стаўленне маіх аднагодкаў, яны нават не паварушыліся, каб дапамагчы. А пра свой учынак я сам нікому не расказаў. Не лічу, што ён нейкі гераічны.

**– А як тады даведаліся ўсе пра ўчынак?**

– Там жа на рацэ народу куча была! Дзеці расказалі сваім мамам, яны – маёй, Лёшка – дырэктару школы, дырэктар мясцовай школы – дырэктару 14-й школы, мой дырэктар паведаміў у Таварыства выратавання на водах. Таварыства на водах узнагародзіла мяне на лінейцы ў школе.

**– Мяркую, далейшы лёс звяжаш з выратаваннем людзей?**

– Не, мне аднаго выратаванага дастаткова. Я вельмі спадзяюся, што такіх выпадкаў са мной больш здарацца не будзе. Не, не таму, што больш ратаваць нікога не буду, а проста хачу, каб больш не здаралася такіх выпадкаў ні з дзецьмі, ні з дарослымі.

**Наталля ТУР.**



Фота Наталлі ТУР.

**Маладзечанец Уладзімір Грахоўскі, вучань 11 класа СШ №14, выратаваў жыццё першакласніку, але свой учынак гераічным не лічыць. Так, на яго думку, павінен рабіць кожны нармальны чалавек.**

● ТВОРЧАСЦЬ

## Вучні спаборнічалі ў гісторыка-краязнаўчым конкурсе

**ВІЛЕЙКА. У аддзеле адукацыі, спорту і турызму райвыканкама падвялі вынікі гісторыка-краязнаўчага конкурсу "Мой родны горад".**

У ім удзельнічалі 16 школьнікаў з 12 устаноў адукацыі Вілейшчыны. Былі гэта вучні з 8 па 11 клас.

Удзельнікі павінны былі адказаць на пытанні з гісторыі Вілейшчыны: у першай частцы даць разгорнутыя адказы, у другой – адказаць на тэсты.

Пераможцай конкурсу стала вучаніца 11 класа вілейскай гімназіі №2 **Вольга Плясецкая**. З заданнем яна справілася на 100%, паведаміла галоўны спецыяліст аддзела адукацыі, спорту і турызму Вілейскага райвыканкама **Іна Яскевіч**. Настаўніца Вольгі – **Наталля Філімонава**.

Дыплом другой ступені атрымалі два ўдзельнікі: дзевяцікласніца Сцешыцкага сада-сярэдняй школы **Дар'я Валковіч** (настаўніца – **Вольга Валковіч**) і адзінаццацікласнік Вязынскага сада-сярэдняй школы **Дзмітры Сухі** (настаўніца **Таццяна Буслаўская**).

Дыплом трэцяй ступені на рахунку вучаніцы 9 класа Хаценчыцкай сярэдняй школы **Марыны Чаховіч** (настаўнік – **Валянцін Лапо**).

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

СПЕЦИАЛЬНОЕ ПРЕДЛОЖЕНИЕ ДЛЯ ВАШЕГО ГОРОДА
СМАРТФОН NOKIA XL
в смартрассрочку за 109 000 руб/мес без справки о доходах
ЭКРАН 5"
ДЛЯ ANDROID™-ПРИЛОЖЕНИЙ
2 SIM-КАРТЫ
И ЗАВТРА БУДЕТ ТВОИМ
velcom
Android является торговой маркой Google Inc.
Унитарное предприятие «Велком», УНП 101528843
Подробности на velcom.by



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



● МУЗЫКА

# Яго голас бярэ ўзнагароды

**МАЛАДЗЕЧНА. Спявак, выпускнік маладзечанскага музкаледжа Андрэй Мацюшонак у маі ў Валгаградзе на "Дэльфійскіх гульнях", у якіх бралі ўдзел 20 краін, атрымаў сярэбраны медаль за выкананне твораў.**

Яго бацька – кіроўца, маці – медык, нават старэйшы брат – тэхнічны супрацоўнік. Адкуль ў хлопца такая здольнасць да музыкі? Можа, ад дзеда? Маці Андрэя казала, спяваў ён вельмі добра.

Яшчэ юнаком Андрэй вызначыўся са сваім накірункам у жыцці – ён хацеў спяваць, марыў стаць прафесійным артыстам.

І калі хлопец вырашыў паступаць у маладзечанскі музычны каледж імя Агінскага – усё атрымалася. Ён не толькі добра вытрымаў усе іспыты, але і трапіў у клас да выдатнага настаўніка **Георгія Юрэвіча**, які выхаваў выдатных вучняў.

– Настаўнік стаў для мяне не толькі аўтарытэтам, – распавядае Андрэй. – Ён стаў для мяне другім бацькам, які выхоўваў мяне як настаўнік і ахоўваў ад розных непрыемнасцяў як самы блізкі чалавек.

Усе чатыры гады навучання ў музычным каледжы ў Андрэя былі напоўнены творчай працай.

– Удзелам у шматлікіх канцэртах, операх, а таксама ў конкурсах, – кажа спявак. – Лічыце самі. У 2011 годзе – партыя Хазэ ў оперы Дж. Бізэ "Кармэн". У 2013 годзе – партыя Лубенскага ў оперы А. Залётнева "Невядомы партрэт".



Фота зафіксавана Тамарай АБРАМОВІЧ.

**У скарбонцы спевака выпускніка маладзечанскага музкаледжа Андрэя Мацюшонка шмат перамог не толькі нацыянальных, але і міжнародных.**

### Перамагаў і ў Беларусі, і за мяжой

Ужо на першым курсе Андрэй атрымаў першую прэмію на конкурсе "Шаную цябе, Беларусь" у Мінску. Другі курс – другая прэмія на рэспубліканскім конкурсе імя Манюшкі, спецыяльны прыз за лепшае выкананне твора.

Далей – Германія. Другая прэмія на конкурсе імя Жуліа Пероці ў горадзе Укермюндэ, Эстонія. У горадзе Кохтла-Ярве – першая прэмія. Дарэчы, трэба адзначыць, што Андрэй Мацюшонак – стыпендыят прэзідэнцкага фонду па падтрымцы таленавітай моладзі.

І вось у маі 2014 года, ужо будучы вучнем Акадэміі музыкі, Андрэй едзе ў Валгаград на "Дэльфійскія гульні", дзе атрымлівае сярэбраны медаль.

**– Які ўсё ж конкурс стаў знакавым у вашым жыцці?**

– Я думаю, што конкурс у Германіі. Гэта быў першы конкурс за мяжой. Адчувалася вялікая адказнасць не толькі як удзельніка прэстыжнага конкурсу, але і як прадстаўніка сваёй краіны. Таксама было хвалявання, што магу падвесці свайго настаўніка. Таму я вельмі рады, што змог атрымаць перамогу.

**– Ці шмат сёння вы ўдзельнічаеце ў канцэртах і дзе яны адбываюцца?**

– Канцэртаў вельмі шмат. І ў Мінску, і ў Маладзечне, а таксама ў Літве, Расіі, Эстоніі, Польшчы. Вельмі цяжка сумяшчаць гэта ўсё з вучобай, нават даводзіцца кожны вечар планаваць наступны дзень, амаль па пунктах, чаго я не рабіў раней.

**– А як адносіны з сябрамі? Не захапіла вас зорная хвароба?**

– Не, сяброў у мяне шмат. Я з задавальненнем наведваю іх, калі дазваляе час, або тэлефаную.

**– "Дэльфійскія гульні" – вельмі прэстыжны конкурс. Якія ўражанні?**

– "Дэльфійскія гульні" – не толькі музычны конкурс. Аднак калі гаварыць толькі пра музычны бок, то трэба адзначыць, што ён ахапіў амаль усе напрамкі музычнай дзейнасці. Гэта эстрадныя, акадэмічныя, народныя спевы, інструментальнае выкананне, харэаграфія, цырк і нават конкурс ды-джэяў.

У конкурсе бралі ўдзел прадстаўнікі каля 20 краін. Сярод іх Казахстан, Расія, Малдова, Украіна, Беларусь, Тайланд і іншыя. У намінацыі Андрэя было 19 выканаўцаў. Прысудзілі тры дыпломы і медалі. Залаты медаль узяла 21-гадовая спявачка з Казахстана.

Андрэю ж другое месца прынеслі арыя Ленскага з оперы Чайкоўскага "Яўген Анегін" і раманс Пукста "Як у лесе зацвіталі".

**– Што далей? Якія планы на будучыню?** – звяртаемся зноў да Андрэя.

– Вядома, больш удзельнічаць у прэстыжных конкурсах, канцэртах. Калі пашанцуе – спяваць у Германіі, Італіі. Аднак гэта вельмі далёкая будучыня.

**– Што б вы пажадалі нашым чытачам?**

– Па-першае, знайсці ў сабе духоўны пачатак. Змяніць адносіны да старэйшых, абяздоленых. Памятаць, што ўсё ж грошы – не самае галоўнае ў жыцці. А па-другое, больш працаваць на здзяйсненне сваёй мэты, і тады ўсё абавязкова атрымаецца.

**Тамара АБРАМОВІЧ, школка журналістыкі пры рэдакцыі "РГ".**

**Даведка "РГ". Андрэй Мацюшонак.** Нарадзіўся ў Будславе. Там скончыў 6 класаў і паступіў у Мінск, у гімназію-каледж пры Акадэміі музыкі, на харавое аддзяленне, дзе да 10 класа вучыўся пад кіраўніцтвам Уладзіміра Глушакова. У 2009 годзе паступіў у музычны каледж імя Агінскага на спецыяльнасць "спевы".



Фота зафіксавана Аленай РАКЕЦКАЙ.

**Школьнікі актыўна ўдзельнічалі ў конкурсе малюнкаў.**

● СВЯТЫ

## Дзеці спаборнічалі ў кемлівасці і конкурсе малюнкаў

**ВІЛЕЙКА. Раённае свята "Вясёлка дзяцінства", прысвечанае Міжнароднаму дню абароны дзяцей, прайшло ў горадзе 1 чэрвеня.**

Пачалося яно канцэртнай праграмай у Палацы культуры. Затым каманды з дзесяці устаноў адукацыі на працягу амаль дзвюх гадзін выконвалі малюнак на тэму "Бяспечнае дзяцінства – цудоўныя гады, бяспечнае дзяцінства – свята назаўжды", спаборнічалі ў спрыце і кемлівасці ў гульнявой праграме на пляцоўках, арганізаваных райаддзелам па надзвычайных сітуацыях.

У заключэнні конкурснай праграмы мастак **Эдуард Мацюшонак** павіншаваў каманды са святам, падзякаваў дзецям за актыўнасць і творчае майстэрства.

Усіх ўдзельнікаў конкурсу малюнка ўзнагародзілі дыпломамі аддзела адукацыі, спорту і турызму і падарункамі. А ўдзельнікі гульнявой праграмы атрымалі сувеніры ад Вілейскага РАНС. У гарадскім парку культуры і адпачынку дзецям далі магчымасць бясплатна пазабаўляцца на атракцыёнах.

**Алена РАКЕЦКАЯ, метадыст Вілейскага раённага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі.**

## Ветэраны не губляюць запалу

**30 мая на базе Смалявіцкага Дома культуры прайшло абласное свята "Пакланімся вялікім тым гадам" у межах рэспубліканскага фестывалю народнай творчасці ветэранскіх калектываў.**

Як распавяла дырэктар раённага арганізацыйна-метадычнага цэнтра **Вольга Барысенка**, мерапрыемства ладзіцца ў два туры.

Першы тур – рэгіянальны агляд з удзелам разнажанравых аматарскіх калектываў ветэранаў вайны і працы, асобых выканаўцаў і клубаў па інтарэсах людзей сталага ўзросту.

Лепшыя прайшлі ў другі тур, які і адбыўся 30 мая. Усяго 300 чалавек з 18 раёнаў вобласці, сярод якіх народны хор ветэранаў вайны і працы Вілейскага Палаца культуры, народны клуб аматараў песні "Верасень" Мядзельскага ГДК, танцавальны калектыў народнага клуба "Адпачынак" Палаца культуры Маладзечна і шмат іншых выканаўцаў з Жодзіна, Нясвіжа, Капыля, Валожына, Чэрвеня.

Мужныя і мудрыя, разважлівыя і жыццялюбівыя, бадзёрыя і руплівыя, вясёлыя і жыццярадасныя людзі выходзілі на сцэну. Людзі, якіх паважна называюць ветэранамі.

Актыўныя і энергічныя, яны збіраюць вакол сябе аднадумцаў, упэўненых, што пасля выхаду на пенсію жыццё толькі пачынаецца, што і ў гэты перыяд яно можа быць насычана мностам яскравых фарбаў, таму вольны іх час прысвечаны розным творчым захапленням: музыцы і танцам, вершам і песням.

І гэтыя песні гучалі – шчырыя і хвалюючыя як, да прыкладу, "Балада аб партызанцы Галіне", якую праспяваў хор з Мядзела.

Усім удзельнікам свята падрыхтавалі спецыяльныя дыпломы і памятныя сувеніры.

Лепшыя калектывы і выканаўцы возьмуць удзел у рэспубліканскім фестывалі народнай творчасці ветэранскіх калектываў, які адбудзецца сёлета ў ліпені ў Мінску.

І яшчэ адзін падарунак атрымалі ветэраны – паездку ўдзельнікаў свята на мемарыяльны комплекс "Курган Славы".

**Тамара АБРАМОВІЧ, школка журналістыкі пры рэдакцыі "РГ".**



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020





У СВЕЦЕ ПАЖОЎКЛЫХ СТАРОНАК

# Якая рыба вадзілася ў Нарачы ў 1929 годзе



25 жніўня 1929 года віленская штодзённая газета "Słowo" апублікавала спецыяльны выпуск, прысвечаны "польскаму мору", як казалі тады, а менавіта возеру Нарач. У працяг перадрукаванага намі раней, я перакажу частку публікацыі аб найбуйнейшым сёння возеры Беларусі. І размова тут аб рыбных багаццях. Учытаемся ў пажоўклыя ад часу старонкі...

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**

Даследаванні, якія праводзіў Г.Філіпкоўскі ("Рыбацкі агляд") устанавілі, што рыб, якія жывуць ў возеры Нарач, налічваецца каля 15 відаў: сялява, шчупак, акунь, плотка, краснапёрка, ёрш, укляя, сом, язь, лешч, лінь, карась і вугор. Што да тых рыб, то цытаваны аўтар змяшчае наступныя заўвагі: "Вугор водзіцца толькі адзіночнымі экземплярамі, аднак вельмі падраслымі. Другая карысная рыба, але таксама нешматлікая, – гэта лешч. Ён мог бы тут знайсці ўмовы, якія б цалкам адпавядалі яго патрэбам.

Кідаецца ў вочы абсалютная адсутнасць судака, якога, на жаль, мусім прывозіць з Савецкай Расіі. Трэба меркаваць, што судак знайшоў бы ў Нарачы карысныя для сябе ўмовы. Няма тут стынкі, але затое ёсць шмат уклеі, якая з'яўляецца добрым пажыткам для драпежнай рыбы, якой і з'яўляецца судак. Укляя прадаецца за нізкую цану, і купляюць яе толькі на луску, якую яўрэі экспартуюць ў Германію (для вырабу гуаніна, у тыя часы сыравіны на штучныя жамчужыны – А.М.) У час масавай лоўлі яе ўжываюць як корм для свіней. Спецыяльная масавая лоўля ўклеі адбываецца тады, калі гэта рыба перад нерастам праходзіць праз рэчку Скему, што злучае Нарач з возерам Мястра.

Сапраўдным царом нарачанскіх рыб з'яўляецца шчупак, які расце да 16 – 20 кілаграмаў і які адрозніваецца ад сваіх братоў з іншых азёраў стройнай паставай і светлым жаўтаватым адценнем. Мяса яго далікатнае і нават адрознае на віленскім рынку. З усёй колькасці рыб, якія ловяцца на Нарачы, шчупак дае каля 20 працэнтаў ад агульнага ўлову.

Наступная рыба, якая з'яўляецца галоўнай мэтай рыбакоў, гэта сялява, яна дае 15 працэнтаў ад ўсяго ўлову. Дасягае яна даўжыні толькі 13-16 сантыметраў, таму на рынку цэніцца танней за вігерскую сяляву.

Акрамя таго, масава здабываньмі рыбамі з'яўляюцца плотка і акунь. Абодва гэтыя віды адрозніваюцца прыгожай формай, добрым памерам, а акунь светлым адценнем, дзякаваць за што трэба пясчанаму і чыстаму дну. Даюць яны каля 30 працэнтаў агульнай здабычы. Астатнія 5 працэнтаў можна аднесці да астатніх рыб, што водзяцца ў возеры, якія аднак не ўтвараюць важную пазіцыю ў агульным балансе".

Што тычыцца колькасці вылаўленай рыбы, п. Філіпкоўскі ацэньвае яе на 220 тысяч кілаграмаў. Прыблізная прадукцыйнасць возера ацэньваецца лічбай 27,5 кілаграма з аднаго гектара штогод. Гэта лічба, заўважае аўтар, дастаткова высокая, беручы пад увагу абшар возера і самую сапраўдную грабежную гаспадарку. Нягледзячы на гэта, можна дапускаць, што прадукцыйнасць Нарачы магла б значна ўзрасці пры рацыянальным гаспадаранні і метадычным зарыбленні відамі, якія б змаглі знайсці спрыяльныя ўмовы развіцця, а цяпер водзяцца ў нязначнай колькасці або цалкам адсутнічаюць. Напрыклад, лешч і судак.

Пры сёняшняй сітуацыі возера Нарач дае ў бюджэт дзяржавы гадавы даход у суме каля 20 тысяч злотых толькі за прамысловыя патэнты ад невадаў.

**Гарскі.**




Ілюстрацыя з газеты "Słowo"

**Газета "Słowo" згадвае, што ў 1928 годзе возера даследаваў аддзел іхтыялогіі і рыбалоўства галоўнай школы сельскай гаспадаркі ў Варшаве. Вынікі даследаванняў былі апублікаваныя ў працы Г.Філіпкоўскага ў №3 выдання "Рыбацкі агляд". Даўжыня берагавой лініі складала 40 540 м, даўжыня – 13 200 м, максімальная шырыня 9 800 м, сярэдняя шырыня – 6 067 м, сярэдняя глыбіня – 10,7 м, максімальная глыбіня – 34,5 м. Сёння ў даведачнай літаратуры максімальная глыбіня пазначаецца як 24,8 м, а даўжыня – 12,8 км. Паказчык шырыні супадае з дадзенымі, якія ўказвала газета "Słowo" – 9,8 км.**

**Даведка "РГ".** Сёння ў Нарачы водзіцца 25 відаў рыб. Сярод іх судак, вугор, укляя (верхаводка, сяляўка), лінь, мянтуз, гусцяра, сялява, амурскі сазан і іншыя. Ва ўловах звычайна пераважаюць лешч, шчупак, плотка. Тут разводзяць і сігавых рыб, якія патрабавальныя да якасці вады. Гадавальнікі-сажалкі для малькоў знаходзяцца паўз паўднёвы бераг возера.

МОЙ КРАЙ

# Невядомая гісторыя. Батурына

**ВІЛЕЙКА. Ёсць у Вілейскім раёне вёсачка з загадкавай назвай Батурына. Яе заўжды закранаў ўсе падзеі, якія толькі здараліся ў краіне на працягу ўсіх стагоддзяў.**

У верасні 1939 года, парушыўшы Рыжскае пагадненне, бальшавікі зноў пайшлі вайной на Польшчу. Вызваленыя ад апалячвання батурынцы, узамен атрымалі ад бальшавікоў калектывізацыю, раскулачванне, рэпрэсіі, смерць і пакуты ў сталінскіх лагерах. Жахі ваеннага ліхалецця і пасляваенныя рэпрэсіі, усё гэта мела месца ў гістарычным жыцці гэтай маленькай вёсачкі.

## Ігнат Арцішэўскі

Батурынцы, як і ўсе беларусы, з пакон вякоў пераджывалі і цярпелі пастаянныя, вельмі рэзкія, павароты жыцця. Цягнулі на сабе ярмо прыгнёту: то расейскую баршчыну, то літоўскую князёўшчыну, то польскую паншчыну.

Наступіў 1914 год. Царская Расея прадчувала непазбежнасць вайны з Захадам. І ўжо ў пачатку ліпеня гэтага года батурынцаў пачалі мабілізоўваць ў царскае войска. Сярод мабілізаваных апынуўся і селянін Ігнат Ігнатавіч Арцішэўскі,1889 года нараджэння.

Нечаканая і гвалтоўная мабілізацыя шмат каго адарвала ад сем'і. Рана застаўшыся без бацькі, сям'я Арцішэўскіх, якая мела трох хлопцаў і чатырох дзяўчат, жыла ў страшэннай нястачы. Самаму старэйшаму, Ігнату, тады было 25 год, ён і кіраваў сваёй невялічкай беззямельнай гаспадаркай. Гвалтоўна адарванага ад сям'і, Ігната вайна матала амаль чатыры гады па шматлікіх франтах, ваюючы супраць немцаў, за цара бацюшку і айчыну. Пасля заключэння Брэсцкага міру ў 1918 годзе, полк, у якім служыў Ігнат Арцішэўскі, цалкам перайшоў на бок бальшавікоў. Абяцаную бальшавікамі дэмабілізацыю з войска Ігнат, як і ўсе астатнія, так і не атрымаў.

Праз год бальшавікі пайшлі вайной на Польшчу, пайшоў і Ігнат, канешне ж, не па сваёй волі. Пад Беластокам быў паранены, але не моцна.

Выкарыстаўшы момант, Ігнат вярнуўся ў сваё роднае Батурына, дзе яго ўжо ніхто і не чакаў.

Дзве сястры ў пошуках лепшай долі з'ехалі ў "васточную" – у Докшыцы. Адна сястра, Валерыя, выйшла замуж за мясцовага адукаванага і працавітага чалавека Яся Паўлюкевіча. Астатнія разляцеліся, як тыя птушачкі, па наваколлі, шукаючы свайго кута. Бацькоўская хатка развалілася зусім, жыць не было дзе, а таму залечваць раны не было калі, трэба ж было неяк уладкоўваць сваё ўласнае жыццё.

**Алесь РАТКЕВІЧ, Чысць.**

**Працяг будзе.**

КАЛЯНДАР

**6 чэрвеня.** Нарадзілася Элаіза Ажэшка (дзявочае прозвішча Паўлоўская, маёнтак Мількаўшчына, цяпер Гродзенскі раён), польская пісьменніца, удзельніца паўстання 1863-1864 гадоў.

***

**150 год** з дня нараджэння Івана Здановіча (1864, Мінск, 1915), доктара, арганізатара шпітальнага абслугоўвання ў Мінскай губерні, заснавальніка школы сляпых і школы урачэбнай і гігіенічнай гімнастыкі.

***

**7 чэрвеня.** 2008 год. Краязнаўцы Вілейскага раёна ўстанавілі каля вёскі Каралеўцы, ва ўрочышчы Біты Лог, памятны знак на месцы бою паўстанцаў з расійскімі войскамі ў 1863 годзе.

***

**8-14 чэрвеня.** 80 гадоў назад (1934) адбыўся I Усебеларускі з'езд пісьменнікаў.

***

**10 чэрвеня.** 75 год з дня нараджэння Хведара Чэрні (1939 – 1983), паэта. Нарадзіўся ў вёсцы Лінкі, што ў Валожынскім раёне.

***

**12 чэрвеня.** 1895 год. У фальварку Кур'янаўшчына Вілейскага павета (цяпер Лагойскі раён) нарадзіўся Леапольд Родзевіч, палітычны і грамадскі дзеяч, драматург, публіцыст, паэт. Скончыў гарадское вучылішча ў Вілейцы (1909). У 1914 годзе пераехаў у Вільню. Працаваў на цукеркавай фабрыцы "Вікторыя". З 1921 года – сябра Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі (БРА), сябра ЦК БРА. Адзін з рэдактараў газеты "Вольны сцяг". Вучыўся ў Камуністычным універсітэце народаў Захаду ў Маскве (1923-1924). У 1925-1934 гг. – рэдактар газеты "Чырвоны сцяг" і часопіса "Бальшавік" (органы ЦК КПЗБ). Працаваў у Камісіі па вывучэнні Заходняй Беларусі пры АН БССР. Быў рэпрэсіраваны. Бясследна згінуў пасля 1938 года. Апублікаваў зборнікі вершаў "Беларусь" (Вільня, 1922), "На паняволеных гонях". Выдаў кнігі апавяданняў "Рэвалюцыйным шляхам" (1928) і "Вогнішча барацьбы" (1930). Многія творы Леапольда Родзевіча, асабліва "Збянтэжаны Саўка", ставіцца тэатральнымі калектывамі Беларусі.

***

**170 гадоў** назад (1844) у вёсцы Багданава пабудаваны з дрэва Міхайлаўскі касцёл – помнік драўлянага дойлідства.

***

**110 гадоў** назад (1904) у мястэчку Івянец з'явілася першае атэлье фатаграфіі, права адкрыць якое атрымала Брайна Дамская, ураджэнка Івянца, глуханямая ад нараджэння. Праз некалькі гадоў яна атрымала дазвол на фатаграфанне не толькі ў Івянцы, але і ва ўсёй Мінскай губерні.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**



© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020




Фота з архіва ЦТДзМ.

Аляксей Прахін прысвяціў авіяцыі ўсё жыццё.

● АСОБЫ

## Сваю мару "паляцець у неба" дорыць іншым

**МАЛАДЗЕЧНА. У гасцях у Аляксея Прахіна, чалавека, які ўсё жыццё прысвяціў авіяцыі, праз усё жыццё пранёс любоў да палётаў і вучыць любіць іх іншых.**

Авіяцыя і ўсё, што з ёй звязанае, да гэтага часу выклікае ў мяне сапраўдную цікавасць.

Мой дзядуля **Віктар Літвіненка** цягам 25 гадоў кіраваў самалётамі, а пазней – верталётамі. Шмат чула я, яшчэ маленькай дзяўчынкай, розных баек і апавяданняў пра лётную службу, было нямала і трагічных гісторый.

Кожны раз дзядулю ўдавалася стварыць цікавую карціну, ды так, што ў мяне ўзнікала нейкая ілюзія палёту. Таму, калі з'явілася магчымасць пазнаёміцца з чалавекам, таксама блізкім да авіяцыі, доўга не разважала.

Аляксей Прахін прыняў мяне цёпла. А давядаўшыся, што я ўнучка лётчыка, яшчэ больш ажывіўся і з радасцю ўзяўся за аповед.

Аляксей з самага дзяцінства марыў пра неба. Нарадзіўся ён у невялікай вёсцы Тамбоўскай вобласці. Яго старэйшы брат быў лётчыкам, вось і малодшы хацеў пайсці па яго слядах. Але, на жаль, не атрымалася.

**Хлопец паступіў у тэхнічнае вучылішча ў Іркуцку і вывучыўся на авіятэхніка. Шмат гадоў ён праводзіў у неба самалёты, назіраў за тым, як адлятаюць яго мары.**

Куды толькі не накіроўвалі па службе Аляксея Мікалаевіча! Ён бываў у розных краях Расіі, у Кітаі і, нарэшце, спыніўся са сваёй сям'ёй у Маладзечне.

### "Я быў гатовы суткамі працаваць без заробку"

20 гадоў свайго жыцця Аляксей Мікалаевіч прысвяціў працы ў клубе "Сокал" спачатку на станцыі юных тэхнікаў, а затым у цэнтры пазашкольнай работы. Сваіх дзяцей ён навучаў авіямадэляванню, выхоўваў у іх сумленнасць, стойкасць, імкненне да лепшага.

– Праца прыносіла мне вялікае задавальненне. Я быў гатовы працаваць суткамі без заробку, толькі б бачыць, як развіваюцца і мужнеюць на вачах мае хлопчыкі, – успамінае педагог.

На занятках навучэнцы запускалі самалёты, шылі да іх парашуты, удзельнічалі ў спаборніцтвах і нават займалі першыя месцы. Двое выхаванцаў гуртка пасля сталі лётчыкамі.

Цяпер Аляксею Мікалаевічу 86 гадоў. Але ветэран авіяцыі да гэтага часу стройны, румяны, таму што прывык да актыўнага ладу жыцця і нават асвойвае асновы ёгі.

Ён выпісвае газеты, глядзіць тэлевізар, хварэе за беларускіх спартсменаў на Алімпіядзе і Чэмпіянаце свету па хакеі. Словам, цікавіцца жыццём краіны і стараецца заўсёды быць у курсе падзей.

З любімай жонкай **Любоўю Яфімаўнай** яны пражылі разам 63 гады і выхавалі выдатных дзяцей. Падрастаюць унукі і праўнукі. Па святах вялікая сям'я збіраецца разам. Самае галоўнае, як кажа Аляксей Мікалаевіч, быць добрым. "Дабрыня выратуе свет", – з усмешкай узгадвае ветэран вядомае выказванне.

**Аліна ЛІТВІНЕНКА, школа журналістыкі "Маладзік".**

● ЗАХАПЛЕННІ

# Назбіраў паўсотні рэтрапрайгравальнікаў

**МАЛАДЗЕЧНА. Навучэнец маладзечанскага політэхнічнага каледжа Юры Казакевіч цягам года рыхтаваў серыю экспанатаў старой гуказапіснай тэхнікі.**

Заняткі ўжо скончыліся. Не спяшаючыся спускаюся па лесвіцы, часу да аўтобуса дастаткова. Раптам з суседняга кабінета чую знаёмую мелодыю гурта "Nirvana". Незвычайнае гучанне прымушае мяне спыніцца. Я асцярожна прыадчыняю дзверы і... апынаюся ў другой палове XX стагоддзя.

**Да 85-годдзя дзіцячай тэхнічнай творчасці ў маладзечанскім цэнтры творчасці дзяцей і моладзі "Маладзік" адкрылася выстава старой гуказапіснай і гукаўзнаўляльнай тэхнікі.**


Фота Юліі СТРЫГІ.

Навучэнец радыёгуртка Юры Казакевіч вырашыў стварыць выставу рэтрапрайгравальнікаў пасля таго, як наведаў выставу старых камп'ютараў.

Ідэя стварыць выставу ўзнікла ў навучэнца радыёгуртка **Юрыя Казакевіча** пасля наведвання выставы рэтра камп'ютараў у БДУІР.

На лаціне "рэтра" азначае вяртанне ў мінулае. У кабінеце сапраўды адчуваецца атмасфера мінуўшчыны. Самыя першыя радыёпрыёмнікі і прайгравальнікі, пласцінкі і касеты, магнітафоны і электрагітары. І, вядома ж, захапляльны аповед юнага радыёаматара. Усё гэта цікава моладзі, а ў людзей больш сталых выклікае настальгію.

Больш за пяцьдзесят экспанатаў размясцілі ў храналагічным парадку. Ад радыёлы "Мелодыя" 1960 года выпуску да магнітафона "Беларусь" 1990 гадоў.

Напрыканцы 70-х гадоў з'явілася магнітафон "Растоў-102", на якім можна было не толькі слухаць музыку, але і перапісваць яе з адной дарожкі на іншую і нават накладваць гук.

"Вега Т-120" ужо мела электрычны лічыльнік стужкі, пры дапамозе якога можна было хутка і лёгка знайсці патрэбныя кампазіцыі.

### Стаў каштоўным экспанатам

Далучэнне мікрафонаў, розныя хуткасці прайгравання, замена драўляных запчастак пластмасавымі, памяншэнне ў памерах – усе гэтыя навінкі рабілі тэхніку больш зручнай у выкарыстанні.

Тытул эксклюзіўнага экспаната выставы набыў радыёпрайгравальнік "Каравэла-203" 1982 года выпуску. У ім прайграваліся пласцінкі не гарызантальна, а вертыкальна. Таксама прыцягваюць увагу кружэлкі, незвычайныя па колеры (чырвоныя, зялёныя) і памеры (меншыя за звычайныя у 2-3 разы).

– Такія маленькія дыскі клалі ў канверты і адпраўлялі па пошце знаёмым, сябрам і сваякам як падарунак, – тлумачыць радыёаматар.

Юры збіраў калекцыю на працягу года. Старая тэхніка трапляла да яго рознымі шляхамі. Да прыкладу, бабінныя магнітафоны дасталіся ад роднага політэхнічнага каледжа, дзе малады чалавек вучыцца. У 80-я гады іх выкарыстоўвалі на ўроках англійскай мовы.

Нешта абмяняў, а нешта нават дарылі на дзень нараджэння. Але большасць сваіх экспанатаў хлопец набываў і, часцей за ўсё, на звычайнай "барахолцы".

– Нават дваццаціградусны мароз не перашкода, калі хочаш займець доўгачаканы асобнік. Змерзлы, прыязджаў дадому і перш за ўсё ставіў чайнік, а затым уключаў на старэнькім прайгравальніку новую пласцінку. Эмоцыі, якія ахаплівалі мяне ў гэты момант, нельга перадаць словамі, – узгадвае Юры.

### Самы дарагі экспанат

Самым дарагім экспанатам у прамым і пераносным сэнсе з'яўляецца арыгінальная кружэлка гурта "Pink Floyd", выпушчаная ў 1969 годзе. У калекцыі Юрыя каля ста рэтра дыскаў яго любімых гуртоў і выканаўцаў: "Кіно", "Арыя", "The Beatles", "Rolling stones", Элвіс Прэслі, амаль уся серыя запісаў з канцэртаў Уладзіміра Высоцкага.


Фота Юліі СТРЫГІ.

На першым плане радыёла "Мелодыя" 1960 года выпуску.

Частка экспанатаў выставы працуе, некаторыя з іх Юры адрамантаваў сам. А яшчэ ён сабраў два сінтэзатары. Прылады даволі простыя, але з іх дапамогай хлопец запісвае ўласную музыку. Корпус электрамузычных інструментаў зрабіў з дрэва, а вось клавішы "пазычыў" са зламаных кітайскіх цацак.

– Чаму б проста не выкарыстоўваць сучасную удасканаленую і шматфункцыянальную тэхніку? – пацікавілася я.

У Юрыя Казакевіча на гэты конт сваё меркаванне:

– Я лічу, што камп'ютары – гэта, вядома, зручна, але ж для душы трэба зусім іншае...

Калекцыя маладога аматара радыётэхнікі пастаянна папаўняецца. Ведаючы аб захапленні Юрыя, сябры і знаёмыя пастаянна прыносяць яму старую апаратуру. Калі і ў вас на гарышчах ці ў каморках пыліцца забытая, даўно закінутая гукаўзнаўляльная тэхніка, прынясіце яе ў цэнтр творчасці дзяцей і моладзі "Маладзік". Тут ёй знойдуць годнае прымяненне і падораць новае жыццё.

**Юлія СТРЫГА, школа журналістыкі "Маладзік".**



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



● ДА 100-ГОДДЗЯ ПАЧАТКУ ПЕРШАЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

# Нарачанскі рэгіён у 1916 годзе

**МЯДЗЕЛ. Зіма 1915-1916 гадоў на расійска-германскім фронце прайшла адносна спакойна. Затое на берагах Нарачы рускія вызначыліся ўдала праведзенай аперацыяй.**

Такім чынам, зыходзячы з розных палітычных меркаванняў, расійскае камандаванне вырашыла неадкладна праводзіць наступленне.

**Галоўны ўдар быў вызначаны ў раёне Нарачанскіх азёр. Тым самым рускія войскі павінны былі скаваць праціўніка і зрабіць немагчымым далейшае перакідванне германскіх рэзерваў у Францыю, у раён Вердэна. У выпадку ж паспяховага развіцця наступлення планавалася цалкам выгнаць немцаў за межы Расійскай імперыі, што насамрэч было малаверагодным.**




Група палонных немцаў, узятых паміж азёрамі Нарач і Вішнеўскае.

## Прыродныя асаблівасці рэгіёна абцяжарвалі наступленне

Рашэнне расійскага камандавання праводзіць наступленне менавіта ў Нарачанскім рэгіёне матывавалася выгаднай канфігурацыяй фронту і перавагай над праціўнікам у жывой сіле. Аднак, як паказаў ход далейшых падзей, гэта рашэнне з'явілася фатальным. У рэчаіснасці ж прыродныя асаблівасці рэгіёна (моцна перасечаная мясцовасць з багаццем азёр, цяжкапраходныя багністыя ўчасткі) да крайнасці абцяжарвалі наступальныя дзеянні. Пазней на гэта ж указваў **А. П. Будберг** у сваім "Дзённіку белагвардзейца". Ранняя вясна і бездараж яшчэ больш ускладнялі выкананне пастаўленай задачы; да таго ж праціўнік грунтоўна і паслядоўна праводзіў перад фронтам свайго войска ўмацаванне абароны. Так, у 1916 годзе немцы пабудавалі вузкакалейную чыгунку, якая вядзе да фронту. Яна злучыла Лынтупы і Кабыльнік і далей разыходзілася па двух напрамках: адна ветка ішла ў раён горада Паставы, а другая – у напрамку да возера Мядзел (праз вёскі Плецяшы і Радзькі). У Кабыльніку ў памешчыцкай сядзібе знаходзіўся штаб 21-га ўзмоцненага армейскага корпуса. Вёска Гуменікі была ператвораная ва ўмацавальны раён (тут жа размяшчаўся зборны пункт для рускіх ваеннапалонных). Непадалёку ў Беймішках знаходзіўся дырыжабль, з якога вялася карэкціроўка артылерыйскага агню.

Перад пачаткам наступлення 2-я руская армія, на якую ўскладалася выкананне асноўных баявых задач, налічвала каля 356 тысяч штыкоў і 17 тысяч шабляў (у немцаў – 74 тысячы штыкоў і 8200 шабляў). Перавага рускіх сіл над праціўнікам, як бачна, дасягала чатырохразовага памеру. Аднак камандуючы 2-й арміяй **У. Смірноў** (выпускнік Полацкага кадэцкага корпуса) спасылаўся на хваробу і выказаўся аб сваёй немагчымасці прымаць ўдзел у гэтым наступленні. Па гэтай прычыне камандуючы Заходнім фронтам генерал ад інфантэрыі **А. Эверт** накіраваў для праўдзення аперацыі камандуючага 4-й арміі генерала **А. Рагозу**, які не мог валодаць мясцовай аператыўнай абстаноўкай у дастатковай ступені.

У сваю чаргу, генерал Рагоза для больш зручнага кіравання падзяліў 2-ю армію на тры ўдарныя групы: Паўночную (на паўночны захад ад Пастаў), Паўднёвую – (паміж азёрамі Нарач і Вішнеўскае) і Цэнтральную – (па лініі Мядзел-Паставы). Выкананне асноўных задач пры прарыве нямецкай абароны ўскладалася на Паўночную групу генерала Пляшкова і Паўднёвую групу на чале з генералам Балуевым.

Аднак такая разбіўка на ўдарныя групы была з самага пачатку відавочна памылковай. Генерал-лейтэнант **Алі-Ага Шыхлінскі**, які на той момант быў генералам па даручэннях пры Вярхоўным Галоўнакамандуючым, пазней у мемуарах напісаў:

"Генерал Рагоза замест таго, каб узяць аперацыю ў свае рукі, перадаў яе выкананне камандзіру 1-га Сібірскага корпуса генералу Пляшкову і яму падначаліў некалькі іншых карпусоў для нанясення галоўнага ўдару.

Справа ў тым, што ў корпусе няма інструменту для кіравання некалькімі карпусамі, а ў штабе арміі ёсць такі інструмент у асобе генерал-кватэрмайстра і яго ўпраўлення. Карпусны камандзір перад асобамі іншых карпусных камандзіраў не можа карыстацца такім аўтарытэтам, якім карыстаецца камандуючы арміяй.

Нарэшце, ніводны з карпусоў не можа ведаць абстаноўкі на ўсім фронце так, як гэта вядома штабу арміі, які даўно знаходзіцца на гэтым месцы і пільна вывучыў увесь свой фронт.

Па гэтай прычыне я меркаваў, што можна было прадбачыць няўдачу".

## Першы дзень наступлення прынёс велізарныя страты

Наступленне пачалося 18 сакавіка 1916 года. Першая атака на вузкім чатырохкіламетровым участку Паўночнай групы войскаў не прынесла поспеху, так як немцы кінжальным агнём з флангаў літаральна прашывалі ланцугі наступаючых. Рускія войскі вымушаныя былі адысці на зыходныя пазіцыі.

У гэты ж дзень вайсковыя часці Паўднёвай групы спрабавалі пераадолець ўмацаванні саперніка паміж азёрамі Нарач і Вішнеўскае, але ўжо ў пачатку атакі некаторыя падраздзяленні трапілі пад агонь уласнай артылерыі. Такая няўзгодненасць дзеянняў была аплачана жыццямі многіх рускіх салдат.

Вынікам першага дня наступлення сталі велізарныя страты з боку рускай арміі, зафіксаваныя ў архіўных дакументах: "Страты ў асабовым саставе Другой арміі за 18 сакавіка 1916 года: 22 пяхотная дывізія – 49 афіцэраў і 5547 салдат, 1-ы сібірскі корпус – 33 афіцэры і 3206 салдат, 5-ы армейскі корпус – 80 афіцэраў і 4102 салдаты, 36 армейскі корпус – 19 афіцэраў і 2030 салдат".

19 сакавіка ўпершыню падчас Нарачанскай ваеннай аперацыі была выкарыстаная хімічная зброя. Нямецкая артылерыя абстраляла рускія пазіцыі, размешчаныя на паўночны ўсход ад возера Вішнеўскае, снарадамі з атрутнымі рэчывамі.

Найбольшага поспеху рускія войскі дамагліся 21 сакавіка. Уначы яны правялі артылерыйскую падрыхтоўку. Разам са звычайнымі было выпушчана 7000 хімічных снарадаў. Пасля гэтага пяхота пайшла ў атаку і дасягнула апошняй лініі варожых умацаванняў каля вёскі Проньki. Толькі з дапамогай дадатковых рэзерваў немцы змаглі ўтрымаць сваю абарону.

Праз восем год былы галоўнакамандуючы германскім Усходнім фронтам **Людэндорф** на старонках сваіх мемуараў прызнаваўся :

"З 18-га па 23 сакавіка становішча 10-й германскай арміі было крытычным. Рускія валодалі велізарнай колькаснай перавагай. 21 сакавіка рускія атрымалі ў азёрнай цясніне поспех, які для нас быў вельмі балючым. На захад ад Пастаў іх атака была толькі з цяжкасцю адбітая. Напружанне войскаў, якія прымалі ўдзел у гэтай аперацыі на глыбока размытай зямлі, у халоднае і сырое надвор'е, было вельмі моцнае". Эрых фон Фалькенгайн пра наступленне рускай імператарскай арміі ў сакавіку 1916 года прыгадваў наступнае: "Атакі працягваліся з выключнай упартасцю да пачатку красавіка, але іх можна было хутчэй назваць крывавымі ахвярапрынашэннямі, чымсьці атакамі".

## Баі за "Фердынандаў нос"

У наступныя дні рускія войскі працягвалі ўпарта наступаць.

Самай галоўнай задачай для войскаў Паўднёвай групы стала ўзяцце ўмацаванай вышыні "Фердынандаў нос" каля вёскі Занарач. Такую назву вышыні прыдумалі рускія салдаты ў насмешку над балгарскім царом Фердынандам – саюзнікам Германіі. Узяцце гэтага ўзвышша матывавалася хутчэй палітычнымі меркаваннямі, чым дыктавалася ваенным становішчам. Камандаванне 2-й арміі з Будслава і камандаванне Заходняга фронту з штаба ў Мінску ўвесь час цікавіліся ўзяццем вышыні. Рускія салдаты ў баях за "Фердынандаў нос" паказвалі прыклады выключнага гераізму.

Упартыя баі падчас наступлення працягваліся 10 дзён. Апошнім высілкам стала зробленая 31 сакавіка спроба захапіць вышыню "Фердынандаў нос". Але і яна аказалася няўдалай. Немцы змаглі даказаць сваё арганізацыйную і тэхнічную перавагу.

## Страты бакоў

Якія ж вынікі тых падзей? У кнізе Н. Падарожнага "Нарачанская аперацыя ў сакавіку 1916 г." прыведзены наступныя страты бакоў.

**За час баёў 2-я руская армія страціла 1018 афіцэраў і 77427 салдат забітымі і параненымі (больш за 30% асабовага саставу). З гэтага ліку 12000 было абмарожаных і замерзлых, а 5000 трупаў знята з германскіх драцяных загарод.**

16 сакавіка 1916 (паводле старога стылю) у сваім лісце да Мікалая II царыца Аляксандра Фёдараўна напісала з Царскага Сяла: "У Вялікім Палацы ўчора я бачыла чатырох аляксандраўцаў і двух крымцаў, а таксама аднаго жаўнера з твайго 1-га Сібірскага палка, я яго бачыла параненым у мінулую вайну. Ён сказаў, што тыдзень альбо два таму назад страты ў тваім палку былі агромністыя, забітыя альбо параненыя зноў амаль усе афіцэры – які жах!"

Страты немцаў склалі 30-40 тысяч чалавек, у тым ліку каля 1200 палонных.

Бачных поспехаў у рускіх войскаў у ходзе Нарачанскай ваеннай аперацыі, здавалася б, не было – не лічыць жа такімі паўтара дзясятка захопленых кулямётаў і прыблізна 10 квадратных кіламетраў тэрыторыі.

Аднак цаной жыццяў сваіх мужных воінаў Расія цалкам выканала саюзніцкі абавязак, фактычна ратуючы Францыю ад паражэння ў вайне – на фронце ля Вердэна з 22 па 30 сакавіка спыніліся германскія атакі, што дазволіла французам падцягнуць рэзервы.

**Вадзім ПРАЎРАЦКІ,**
**в. Нарач (Кабыльнік).**
**Працяг будзе.**



© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



УСПАМІНЫ

# Уладзімір Макоўскі пра Маладзечна

**МАЛАДЗЕЧНА. Футбаліст Уладзімір Макоўскі, выхаванец маладзечанскай спартыўнай школы, расказаў аб этапах сваёй гульнявой кар’еры ў інтэрв’ю сайту dinamo-minsk.by. Прапануем чытачам “РГ” самыя цікавыя вытрымкі з гэтай публікацыі.**




Фота з архіва Сяргея ГАЙКОВІЧА.

Уладзімір і Міхаіл Макоўскія – юнакі з Маладзечна. Фотаздымак 1994 года.

…Мы з братам Міхаілам яшчэ малыя былі. Да школы ў двары заўсёды мяч ганялі, як усе дзеці. А потым пайшлі ў першы клас, а там, у школе, аб’ява вісіць аб наборы ў футбольную секцыю. Прыйшлі мы туды. Першы трэнер, **Уладзімір Васаган,** набіраў тады хлопцаў.

…Да класа пятага нас Васаган і вёў, затым убачыў **Анатоль Бераснеў**. Як там трэнеры дамаўляліся, я не ведаю, але мы перайшлі да яго. Потым ён ужо нам расказваў, што ў 14 гадоў нас з братам запрашалі ў Мінск, але ён не адпусціў. Мы засталіся ў Маладзечне. Сталі за каманду “Электрамодуль” гуляць. Імкнуліся не саступаць мужыкам.

Было ўсяго: атрымлівалі па нагах, плакалі, бровы, бывала, рассякалі. Але ўсё гэта хутка забывалася, цярпелі. Бацькі нас не пускалі на трэніроўкі пасля такіх траўмаў.

Я спяваў добра, дык мяне хацелі ў музычны гурток аддаць. Куды там! Я адразу – не! Толькі футбол! Хто тады задумваўся аб кар’еры? У мяне ніколі плакаты футбалістаў дома не віселі. Тады было модна дома выявы Сталонэ вешаць, Шварцэнегера, Бруса Лі. Мы былі, як усе хлопчыкі. Толькі футбол вельмі любілі.

А потым нас прыкмеціў **Сяргей Бароўскі**, ён тады “Маладзечна” трэніраваў.

### І гульня – пачалася!

…Помню, як першы раз выйшаў у складзе супраць “Дынама-93”. Пакрыху, пакрыху і пайшло. Сяргей Уладзіміравіч пастаянна тэарэтычныя заняткі праводзіў, падказваў, вучыў нас ужо даросламу футболу. Гэта была вышэйшая ліга беларускага футбола. А мы ж яшчэ ўціхую ад Бароўскага прыязджалі на юнацкі “Крыштальны мяч” гуляць.

… Выпадак быў, ніколі не забуду. Мы ўжо ў “Маладзечне” былі з Мішам. Ну, і прыйшлі неяк паглядзець, як наш “год” на “Крыштальны мяч” з Жодзіна гуляў. Прыйшлі, а нашы прайграюць 0:2.

Тады трэнер нам гаворыць: “Так, браты, форма ёсць? Давайце, пераапранайцеся!” Мы адказваем, што нам жа нельга, мы ж у першай камандзе. “Ды нічога страшнага, давайце, потым разбяромся”.

А ў нас ні формы з сабою, ні буцаў. Нешта там нам знайшлі, апранулі, выпусцілі. Мы і выйгралі 4:2. Я тры забіў, Мішка – адзін. Ну, потым, праўда, моцна папала за гэта. Больш такога не рабілі.

### Радасць ад гульні

…Ды наогул цікава было. Любіў і за мяч чапляцца, і верхавыя мячы выйграваць. Пёрся на абаронцаў. Я ж не бягучы быў, куды там… У мяне стартавай хуткасці ніякай не было. Я прыйшоў у штрафную, стаў там, прыняў мяч, далей ці аддаў свайму, ці пратараніў абарону, патаптаўся, забіў.

На трэніроўках – там усё зразумела: трэнер сказаў – я зрабіў. А ў гульні ў мяне такое было – я сам не ведаў, што рабіў. З **Генам Туміловічам** неяк успаміналі: ён за “Дынама” гуляў, а я яшчэ тады за “Маладзечна”.

Я адзін на адзін з ім выходжу, абыграў, забіў гол у пустыя вароты. Ён мне потым гаворыць: “Воўка, ты адзіны чалавек, хто мне гол забіў! Як так? Потым ва ўсіх пытаўся, што гэта за браты-вундэркінды такія?”

…Як мы ў “Дынама” апынуліся? Ды нас **Іван Шчокін** убачыў. А ў нас Бароўскага ўжо не было, ён у зборную пайшоў. Нас **Румбуціс** трэніраваў ужо. “Маладзечна” тады бізнесмену Хвастовічу належала.

Ну, і неяк **Людас Іонавіч** падыходзіць і гаворыць, маўляў, вас забірае “Дынама”, а мы – з адной структуры, мы не можам супрацьўляцца, але я бы вас пакінуў.

Так зімой 96-га года мы перайшлі ў мінскае “Дынама”.

**Даведка. Уладзімір Макоўскі.** Нападаючы. Нарадзіўся ў 1977 годзе. Футбаліст зборнай Беларусі (28 матчаў, 4 галы), цяпер – трэнер “Іслачы” (Мінскі раён, першая ліга). Выступаў за беларускія каманды “Маладзечна” (1994-95 годы), “Дынама” (Мінск), “Нафтан” (Наваполацк), “Дарыда” (Мінскі раён), Граніт” (Мікашэвічы), “Тарпеда-СКА” (Мінск), “Гарадзея”, украінскія каманды – “Дынама” (Кіеў), “Ворскла” (Палтава), “Арсенал” (Кіеў), “Закарпацце” (Ужгарад), а таксама “Інтэр” (Баку, Азербайджан) і “Балтыка” (Калінінград, Расія).
Лепшы футбаліст Беларусі 1996 года.
Чэмпіён Беларусі 1997 года, сярэбраны прызёр 1996 года, бронзавы прызёр 2003 года ў складзе мінскага “Дынама”. Уладальнік Кубка Беларусі 2009 года ў складзе наваполацкага “Нафтана”. Чэмпіён Украіны 1998 года і ўладальнік Кубка Украіны 1998 года ў складзе кіеўскага “Дынама”.

**Падрыхтаваў Сяргей ГАЙКОВІЧ.**
**Працяг будзе.**

ФУТБОЛ

## Маладзечна разграміла “Колас-Дружбу” – 7:0

**МАЛАДЗЕЧНА. 1 чэрвеня ў матчы пятага тура чэмпіянату краіны каманда “Маладзечна-2013” сустрэлася з камандай “Колас-Дружба” з Гарадзішча.**

Аднак гульня аказалася зусім не сяброўскай.

Ужо на другой хвіліне **Андрэй Шаблінскі** адкрывае лік матча.

На перапынак каманда з Маладзечна сыходзіць, маючы на сваім рахунку два забітыя галы. Другі мяч у вароты каманды з Гарадзішча забіў **Андрэй Лявончык.**

Што сказаў трэнер у перапынку камандзе, што пасля гэтага хлопцы з сонечнага горада забіваюць адзін мяч за другім, тым самым робячы лік 7:0, і спытаемся ў трэнера ФСК “Маладзечна-2013” **Дзмітрыя Ганчарова:**

– Каб не расслабляліся хлопцы, а вытрымалі першыя хвіліны другога тайма.

У другім тайме галы ў вароты каманды “Колас-Дружба” забівалі **Аляксандр Парфёнаў**, двойчы вызначыўся, менавіта ён паставіў кропку ў матчы, забіўшы сёмы мяч, **Андрэй Лявончык, Сяргей Тарчыла, Прохар Новікаў.**

**– Дзмітры, як павіншавалі сваю каманду?**

– Каманда павіншавала сябе сама. У аўтобусе, дзе мы пераапраналіся пасля гульні (распранальні на стадыёне Гарадзішчы вельмі няўручныя), я думаю, што павылятаюць шыбы ад той радасці і весялосці, якая панавала сярод гульцоў.

**– У наступнай гульні замацуеце поспех?**

– Як я раней ужо казаў, нават тое, што мы перамагаем не заўсёды, гэта не страшна. Галоўнае, што мы пастунова становімся адной камандай. Адна гульня з камандай “Колас-Дружба” – гэта далёка не паказчык. Вось калі мы ад гульні да гульні будзем паказваць вынік, тады можна будзе аб нечым гаварыць. І я кажу нават не пра перамогу, а пра гульню такога ўзроўню, які мы паказалі ў Гарадзішчы.

**– Лік 7:0 – рэкордны для каманды “Маладзечна-2013”. Такога яшчэ не было?**

– Я не ведаю ўсёй гісторыі маладзечанскай каманды, магчыма, з такім лікам ужо і перамагалі. Мне б не хацелася падзяляць гісторыю маладзечанскага футбола на да і пасля. Гэта наша агульная перамога, перамога ўсяго горада Маладзечна. Усё роўна, пры мне, як трэнеры, яна адбылася ці не. Мы разам робім агульную справу.

Нагадаем, што наступная гульня з камандай “ЮА-Буд-Жыткавічы”адбудзецца на гарадскім стадыёне 7 чэрвеня. Пачатак а 18 гадзіне.



**Наталля ТУР.**
E-mail: turenok_08 @mail.ru

НАВІНЫ

## Перамаглі вілейскія плыўцы

**ВІЛЕЙКА.** У Барысаве 21-23 мая прайшла адкрытая абласная спартакіяда сярод ДЮСШ і СДЮШАР па плаванні. Удзельнічалі ў ёй юнакі 1999-2000 гадоў нараджэння і маладзейшыя, дзяўчаты 2001-2002 гадоў нараджэння і маладзейшыя.

Прымалі ўдзел у спартакіядзе тры навучэнцы СДЮШАР Вілейскага райвыканкама. І два з іх сталі прызёрамі. **Сяргей Міхайлаў** заняў першае месца на дыстанцыі 100 метраў батэрфляем, другое месца – на 50-метроўцы батэрфляем. **Яўген Маліноўскі** быў другім на дыстанцыі 50 метраў вольным стылем і двойчы трэцім – на дыстанцыях 100 і 200 метраў вольным стылем.

А 24 мая ў Слуцку адбыўся 11-ы этап турніру “Кубак надзей” у праграме адкрытага першынства Мінскай вобласці па плаванні. Юныя плыўцы змагаліся на дыстанцыі 400 метраў вольным стылем. Віляйчанка **Лізавета Шчарбакова** заняла першае месца.

– Пасля 11-і этапаў Лізавета знаходзіцца на першым месцы ў рэйтынгу ў вобласці сярод вучаніц 7-8 класаў. А засталося правесці на “Кубку надзей” толькі адзін этап, – паведаміла намеснік дырэктара СДЮШАР **Вікторыя Пагуда**.

### … і акрабаты

**ВІЛЕЙКА.** Адкрытае першынство Баранавічаў па спартыўнай акрабатыцы і скачках на акрабатычнай дарожцы “Баранавіцкая вясна-2014” прайшло з 23 па 25 мая. Удзельнічалі спартсмены з Баранавічаў, Мінска, Вілейкі.

Першае месца сярод мужчынскіх груп занялі навучэнцы СДЮШАР Вілейскага райвыканкама **Ілля Мікуліч, Павел Лапша, Ягор Валюжанец, Сяргей Адамовіч.** Трэніруе іх **Іван Мамай.**

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

НАВІНЫ

## Маладзечанцы выйгралі ў “Забудовы-2007”

**МАЛАДЗЕЧНА, ВАЛОЖЫН.** “Валожын-2010” 31 мая ў Чэрвені згуляў унічыю з мясцовым “Коласам” 2:2, “Забудова-2007” дома прайграла камандзе “Маладзечна-ДЮСШ-4” 1:4. У маладзечанскай дублем адзначыўся **Павел Майсяёнак.** На яго рахунку ўжо шэсць галоў і другое месца ў спісе бамбардзіраў чэмпіянату вобласці.

## “Вілія” перамагла “Беразіно”

**ВІЛЕЙКА.** У пятым туры чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе “Вілія” дома 1 чэрвеня прымала “Беразіно”.

– У пачатку матча прапусцілі гол, – расказаў капітан “Віліі” **Алег Гулевіч**. – Потым добра трымалі мяч, мелі моманты, але забіць не маглі. Усё ж у першым тайме зраўнялі лік. А ў другім тайме наша каманда стала гуляць яшчэ лепш. І як вынік – перамога 4:2.

Галы ў “Віліі” забілі **Міхаіл Макоўскі, Арцём Ермакоў**, дублем адзначыўся **Юры Сыраквашка**.

У групе “А” “Вілія” ўзнялася на трэцяе месца.

## “Смаргонь” перамагае чацверты раз запар

**СМАРГОНЬ.** Восьмы тур чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе прынёс футбольнаму клубу “Смаргонь” яшчэ тры ачкі.

У гасцях смаргонцы перамаглі “Гомельчыгунтранс” 2:0. На пятай хвіліне гол забіў **Сямёнаў**, а ў канцы матча вызначыўся **Мархель.**

Галоўны трэнер ФК “Смаргонь” **Павел Бацюта** пракаментаваў матч у інтэрв’ю для сайта fc-smorgon.by:

– Пачалі матч з хуткага гола. Кантралявалі мяч, стваралі галявыя моманты, але не рэалізавалі іх. Над завяршальнай стадыяй атак трэба працаваць.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



# Камент-эксперт Rh.by

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### У швейцарскім "Штадлеры" – як у "Мерседэсе"

У старых электрычках хоць часам назвы канцавых станцый па-беларуску пісаліся. Да каго можна звярнуцца, каб і ў новай гэтай так зрабіць? Надта хочацца… ***Настальжы.***

Урэшце дайшла цывілізацыя і да нас! Розніца зусім невялікая, у параўнанні са звычайнай электрычкай каля 25 хвілін. А на якіх станцыях спыняецца новая электрычка? ***Vilka.***

Я не ведаю, у якім месцы Маладзечна Вілка сядае на электрычку, бо мяне яна натуральна нясе да Мінска гадзіну і 47 хвілін, а калі завісне на Ушы, то і 57. А гэта амаль дзве гадзіны. Так што проста фантастыка, што цяпер ёсць магчымасць дабрацца за 55 хвілін не за 60 тысяч на віленскім цягніку, а за 30 на рэгіянальным. ***ШтО_О?***

Нязручна і неразумна, што цягнік прыходзіць на 2 хвіліны пазней таго, як адпраўляецца дызель на Вілейку. А было б вельмі зручна, і людзей было б значна больш! ***Mik.***

### Маладзечанцы змогуць паўплываць на расклад руху "Штадлера"

Наталля малайчына. Заўсёды рэпартажы цікавыя, актуальныя. У гэтым артыкуле таксама абмеркавалі важнае пытанне. Прыпынак "Фестывальны" патрэбны: вялікі мікраранён, які зможа павялічыць колькасць пасажыраў і рэнтабельнасць цягніка. ***Святлана.***

Ну, правільна. Давайце яшчэ дададзім прыпынкаў. Спачатку "Фестывальны", потым яшчэ і "Ушу", "Радашкавічы" і г.д. І будзем ехаць паўтары гадзіны і ныць, што доўга. Прыпынкі нельга пачынаць дадаваць ні ў якім разе. Каму трэба хутка і з камфортам ехаць – на вакзал прыедзе. ***Валка.***

Ні ў якім разе нельга дадаваць прыпынкаў, нават "Фестывальны"! Таму што потым па жаданнях пасажыраў пачнуць дадаваць і іншыя. Трэба раз і назаўсёды паставіць выразную мяжу паміж бізнес-класам і эканом-класам. Мэта бізнес-класа – максімальна хутка і камфортна даставіць пасажыраў з Маладзечна ў Мінск . Так што каму трэба – прыедуць на вакзал, гэта не праблема для горада. Аўтобусы ў нас ходзяць па раскладзе! ***Вара.***

### "Мова Нанова" ў Маладзечне развіталася да верасня

Вялікі дзякуй за пазітыўныя заняткі! Было вельмі добра і весела! Усім міру! ***Шурык.***


**Наведайце АБНОЎЛЕНЫ сайт "Рэгіянальнай газеты"** Rh.by

- Навіны штодня
- Каляровыя фота, гук, відэа
- Інтэрактыўнае абмеркаванне зместу
- Доступ да архіваў

клікні rh.by

*Выкажыце сваё меркаванне*


## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 3 | | | 6 | 9 |
| | | | | 6 | 9 | 3 | 8 | |
| 6 | | | | | | | | 1 |
| | 8 | | 2 | | 5 | | | 4 |
| | | 4 | | | | 9 | | |
| 9 | | | 4 | | 8 | | 7 | |
| 3 | | | | | | | | 7 |
| | 9 | 1 | 3 | 4 | | | | |
| 5 | 6 | | | 8 | 1 | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА



Фота Насты РОЎДЫ

Шасцігадовая Юля Канапелька 30 мая святкавала свой выпускны ў маладзечанскім садку №10. Туфлі, сукенка, прычоска, зробленая ў цырульні, – рыхтавалася дзяўчынка доўга.

## РЭПЕРТУАРЫ



### Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

ПРЭМ'ЕРА! Фантастычны баявік "**Грань будучыні**", 3D (ЗША, 2014, фільм дазволены для паказу гледачам з 16 год)
5-7 чэрвеня – у 21:00
8, 9 чэрвеня – у 18:30
10-12 чэрвеня – у 21:00
Кошт білета – 40 000-50 000 рублёў.

ПРЭМ'ЕРА! Камедыя "**Падарунак з характарам**", (Расія, 2014)
6 чэрвеня – у 19:00
7 чэрвеня – у 14:30
8 чэрвеня – у 16:30
Кошт білета – 20 000-30 000 рублёў.

Фэнтэзі "**Малефісэнта**"3D (ЗША, 2014, гледачам да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
5 чэрвеня – у 19:00
6 чэрвеня – у 17:00
7 чэрвеня – у 19:00
8, 9 чэрвеня – у 21:00
11 чэрвеня – у 19:00
12 чэрвеня – у 17:00
Кошт білета – 50 000 рублёў.

ПРЭМ'ЕРА! Камедыя "**Усё і адразу**" (Расія, 2014, прагляд дазволены гледачам з 16 год)
12 чэрвеня – у 19:00

Анімацыйны фантастычны баявік "**Касмічны пірат Харлак**", 3D (Японія, ЗША, 2013, гледачам да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
5 чэрвеня – у 17:00
Кошт білета – 30 000 рублёў.

Анімацыйныя прыгоды "**Кот Гром і зачараваны дом**", 3D (ЗША, Бельгія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
10 чэрвеня – у 16:30
Кошт білета – 30 000 рублёў.

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Прыгоды "**Цуда-востраў, ці Палескія рабінзоны**" (Беларусьфільм, 2014, без узроставых абмежаванняў)
5, 6 чэрвеня – у 16:00
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Анімацыя "**Чароўны лес**" (Францыя, 2012, без узроставых абмежаванняў)
7-9 чэрвеня – у 16:00
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Анімацыя "**Рабінзон Круза: Правадыр піратаў**" (Аргенціна, 2011, без узроставых абмежаванняў)
10-12 чэрвеня – у 16:00
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Меладрама "**Калейдаскоп кахання**" (ЗША, 2012, фільм дазволены для паказу гледачам з 16 год)
5 чэрвеня – у 21:30
6-8 чэрвеня – у 19:30
9 чэрвеня – у 21:30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Трылер "**Уладанне 18**" (Расія, 2013, фільм дазволены для паказу гледачам з 16 год)
10 чэрвеня – у 21:30
11 чэрвеня – у 19:30
12 чэрвеня – у 21:30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Трылер "**Змрочныя нябёсы**" (ЗША, 2013, фільм дазволены для паказу гледачам з 16 год)
5 чэрвеня – у 19:30
6-8 чэрвеня – у 21:30
10 чэрвеня – у 19:30
11 чэрвеня – у 21:30
12 чэрвеня – у 19:30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

### Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Пушыстыя супраць зубастых**" (Паўднёвая Карэя, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
6, 11 чэрвеня – у 18:00
7, 8 чэрвеня – у 15:00
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Меладрама "**Цяпло нашых целаў**" (ЗША, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
6, 11 чэрвеня – у 21:00
7, 8 чэрвеня – у 18:00, 21:00
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Меладрама "**Экзамен для дваіх**" (ЗША, фільм дазволены для паказу гледачам з 16 год).
12, 13 чэрвеня – у 18:00
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Трылер "**Уладанне 18**" (Расія, фільм дазволены для паказу гледачам з 16 год)
12, 13 чэрвеня – у 21:00
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Тэл.: **8(01771), 5-43-61, 5-60-95, 5-68-59**

## ГАРАСКОП (6-12 ЧЭРВЕНЯ)


**Авен.** Добры час, каб атрымаць новыя веды. Не адмаўляйцеся ад паездак – гэта самы зручны час для пачатку рамантычных адносінаў.


**Цялец.** Час вельмі спрыяльны для развіцця адносінаў, з'яўлення новых знаёмстваў. Будзьце эмацыйнымі і сяброўскімі. Гэта дапаможа вам знайсці доўгачаканае каханне.


**Блізняты.** Удачны час для рэалізацыі сваіх магчымасцей. Але прыкласці намаганні ўсё ж давядзецца. Звяртайце ўвагу на папяраджанні, якія пасылае вам жыццё, імі не трэба грэбаваць.


**Рак.** Пастарайцеся прымаць незвычайныя рашэнні – гэта дапаможа вам заслужыць невялікае прызнанне ў дзелавой сферы. Паспрабуйце эксперыментаваць – нават калі і спасцігнуць няўдачы, яны пойдуць толькі на карысць.


**Леў.** Перыяд выдатна падыходзіць для вырашэння практычна ўсіх пытанняў, у першую чаргу – грашовых.


**Дзева.** Калі вас паспрабуюць вывесці з раўнавагі, то захоўвайце спакой. Трымайцеся далей ад людзей, якія вам непрыемныя.


**Шалі.** Час спрыяльны для творчых пошукаў. Але будзьце ўважлівыя – ёсць рызыка аказацца пад уплывам чужых думак. Будзьце карэктныя ў адносінах да калег, бо ёсць верагоднасць таго, што можаце нажыць сярод іх ворагаў.


**Скарпіён.** Інтуіцыя падкажа, як наладзіць адносіны з калегамі на рабоце. Каб было прасцей, папрасіце прабачэння за нанесеныя крыўды.


**Стралец.** Вы праяўляеце неўласцівую легкадумнасць. У іншай сітуацыі можна было б адпачыць, але цяпер. Ад вас чакаюць рашучасці, магчымасці хутка прымаць рашэнні.


**Казярог.** Калі і складзецца цяжкая сітуацыя, якую самастойна вырашыць немагчыма, то на дапамогу прыйдуць сваякі, надзейныя сябры, калегі.


**Вадалей.** Павышаецца вынослівасць, здольнасць вытрымліваць вялікія разумовыя і псіхалагічныя нагрузкі, весці спартанскі лад жыцця. Добры перыяд для вырашэння праблем матэрыяльнага характару.


**Рыбы.** Давярайце сваім вачам і інтуіцыі. Мабілізуйце свае творчыя магчымасці, гэта дапаможа рэалізаваць ранейшыя мары і жаданні.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

ISSN 1991-7155

9 771991 715006

Камент-эксперт

Rh.by

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420**, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27



## НАДВОР'Е

**7 чэрвеня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Мінск** | +16 / +23 | | +17 / +22 | | +14 / +23 | | +15 / +20 | |
| | 743 | ↖ 1 | 744 | ↘ 2 | 743 | → 6 | 743 | ↘ 6 |
| **Вільня** | +13 / +21 | | +13 / +19 | | +14 / +20 | | +12 / +21 | |
| | 752 | ↑ 3 | 753 | → 3 | 751 | → 5 | 752 | → 6 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць ападкі, Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с. Усход, захад па Маладзечне

Усход 4.40
Захад 21.42
Даўжыня дня 17.02

Усход 14.46
Захад 1.53
Квадра 2




## ПРЫКМЕТЫ

- Фядосся-каласяніца (11 чэрвеня). На Фядоссю-каласяніцу жыта каласіцца.
- Хто халадку шукае, той у зімку галадае.
- Летні дзень зіму корміць.

# Чытайце праз тыдзень:

- **Пра захапленне маладзечанца старадаўняй зброяй чытайце ў наступным нумары "РГ".**

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Якім відам творчасці вы займаецеся ці захапляліся ў дзяцінстве?



**Дыяна Бурэц, вучаніца СШ №2:**

– Пяць гадоў я займаюся суднамадэляваннем пад кіраўніцтвам свайго бацькі. Летась стала чэмпіёнкай Беларусі і атрымала званне майстра спорту.



**Аляксей Васільеў, дырэктар ЦТДзіМ "Маладзік":**

– У 9 гадоў я прыйшоў у тэхнічны гурток Дома піянераў у пасёлку Локня Пскоўскай вобласці. Там засвоіў тэхніку пабудовы караблёў, самалётаў, ракет. Рамантыка першых спаборніцтваў назаўсёды пакарыла маё сэрца. Да гэтага часу захапляюся тэхнічнай творчасцю і навучаю дзяцей.



**Таццяна Фешчанка, вучаніца СШ №8:**

– Некалькі гадоў таму я вельмі любіла гуляць у развіцёвыя камп'ютарныя гульні і гульні на логіку. Я магла праводзіць гадзіны, разгадваючы цікавыя задачкі. Цяпер люблю рашаць розныя матэматычныя заданні.



**Арцём Станкевіч, вучань Лебедзеўскай СШ:**

– Восем гадоў я займаюся футболам у дзіцячай юнацкай спартыўнай школе №2. Гэтае захапленне мне вельмі падабалася. З вялікім задавальненнем хадзіў на ўсе трэніроўкі і ездзіў на спаборніцтвы. Спорт навучыў мяне заўсёды ісці да перамогі, загартаваў сілу духу і характар.



**Ала Брылеўская, медработнік:**

– У дзяцінстве я была простай і вясёлай дзяўчынкай. Пэўных захапленняў не было, але жаданне пазнаваць кожны раз нешта новае заўсёды прысутнічала. Я любіла маляваць, танцаваць і гуляць у любімыя гульні, часцей за ўсё з лялькамі.



**Анастасія Скрыцкая, прадавец:**

– Я была непаседай, і бацькі запісалі мяне ў гімнастыку, пасля – у цыркавую акрабатыку. Там кожны дзень быў напоўнены жартамі клоунаў, рознымі фокусамі і трукамі. А яшчэ гуляю ў жаночы футбол.

**Падрыхтавалі Юлія СТРЫГА і Ксенія РАГЕЛЬ, школа журналістыкі "Маладзік".**

# "Мова Нанова" развіталася да верасня

**МАЛАДЗЕЧНА.** Прайшлі апошнія ў сезоне моўныя заняткі.

Курсы беларускай мовы працягнуцца ў верасні. "Рэгіянальная газета" пазней раскажа, калі і дзе яны будуць адбывацца.

**Аддзел інфармацыі.**

МОВА НАНОВА


ОКНА ДВЕРИ ПВХ
МЕЖКОМНАТНЫЕ ДВЕРИ МДФ
БАЛКОННЫЕ РАМЫ
Консультация Замер Доставка
*Бесплатно!*
РАССРОЧКА! СКИДКИ!
ТЕПЛЫЕ ОТКОСЫ
ЦЕНЫ ОТ ПРОИЗВОДИТЕЛЯ
8 029 264-79-94 8 044 488-55-99
*Нам важен каждый клиент!*
УНП 690614091 ЧТУП "Белмебельком"

ООО МебельСтар УНП 690249732
МЕБЕЛЬСТАР
*100% МЕБЕЛИ. Рассрочка*
(01771) 5-63-82; (029)5065268; (029)6701534
www.belmebelstar.ru

ОКОННАЯ И ДВЕРНАЯ фурнитура на ПВХ профиль
SIEGENIA AUBI
Решения внутри
*поворотно-откидной комплект* (1460x625)
*13,5 евро* с НДС
Теперь и в Молодечно
(029) 321-21-21
(029) 169-57-75
Тел./факс (0176) 50-12-42
УНП 191503994 ООО "ФАЛАЙН"

МЭТР
СТРОИТЕЛЬНЫЙ ДОМ
*г.Сморгонь, пер.Комсомольский, 4*
(напротив автовокзала)
- торговая площадь 500 кв.м.
- 15 000 товаров в наличии
- спеццены на крупные покупки
- кредит и рассрочка
- наличный и безналичный расчет
без выходных
**пн-сб:** с 08.00 до 20.00
**вс:** с 08.00 до 18.00
*Приглашаем к сотрудничеству предприятия и организации!*
Тел. (8-01592) 23-1-11 *(розница)*
моб: (8-044) 574-48-88
Тел.: (8-01592) 35-2-72 *(безнал)*
www.mtr.by
УНП690456075

УСЛУГИ СПЕЦИАЛЬНОЙ и СТРОИТЕЛЬНОЙ ТЕХНИКИ
ПОГРУЗЧИК фронтальный, "Амкодор"
БУЛЬДОЗЕР ДТ-75 планировка земли, резка чернозема
ЭКСКАВАТОР рытье котлованов, траншей, фундаментов
САМОСВАЛЫ МАЗ 5551 - г/п 10 т, ЗИЛ 555 - г/п 5 т, доставка песка, щебня, вывоз мусора
8-029-572-56-45 (МТС)
8-029-372-56-45 (Вел)

Döcke PRODUCT OF GERMANY
Гарантия немецкого качества – 50 лет!
В продаже имеются:
- фасадные панели, НОВИНКА!
- виниловый сайдинг
- водосточные системы
- металлочерепица и гибкая кровля
Форма оплаты любая.
Оформление рассрочки и кредита на ДОМУ!
Образцы находятся по адресу: г.Молодечно, ул.Волыньца, 12, комн.15
Тел. (8-0176) 76-48-30, (8-029) 856-46-33, (8-029) 902-03-34.
ИП Гриневский Д.В. УНП 691508334

Ремонт и реставрация мягкой мебели
из дивана – угловой, из кровати – тахта
Ремонт и изготовление матрацов
*Доставка бесплатно!*
Тел. (8-029) 262-72-68, (8-033) 364-23-93
ИП Ярошевич Е.С. УНП 691861564

ОТОПЛЕНИЕ - ВОДОСНАБЖЕНИЕ
- КОТЛЫ ИЗ ИТАЛИИ
- РАДИАТОРЫ
Рассрочка 0%
- ВОДОНАГРЕВАТЕЛИ
- ЭЛЕКТРООБОГРЕВАТЕЛИ
- ТРУБЫ, ФИТИНГИ, КРАНЫ
- БАКИ РАСШИРИТЕЛЬНЫЕ
- СЧЕТЧИКИ ГАЗА и ВОДЫ
Фирменный магазин IMMERGAS
8 029 1228737
8 029 1356221
Молодечно, ул. Мира, 10А
Частное предприятие "Теплое Место". УНП 191283857

Продажа строительного инструмента SKIPER:
- Бетономешалка от 210 у.е.
- Бензогенератор от 210 у.е.
- Сварочный аппарат от 150 у.е.
- Тачка садовая от 40 у.е.





Тел. МТС (8-029) 560-13-36, Велком (8-044) 484-20-76
SARENDA.BY
ИП Гуринович Л.В. УНП 192219160



Рэгіянальная газета. Rh.by

Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 23 (997) 6.06.2014.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення паліграфічнай дзейнасці №02330/85 от 23.01.14 г. да 29.03.2019. Зак. 489. Падпісана ў друк у 10.00 5.06.2014.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.




© PDF: Kamunikat.org 2020

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020